8 лютага 2019 | № 5 (616)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Вясна пачалася ўзімку**
Стар. 8









# Высылка на той свет

## Смерці і гора — такі вынік некампетэнтнай працы з замежнымі грамадзянамі



Таццяна ШАПУЦЬКА



За апошнія два месяцы мінімум тры мужчыны скончылі жыццё самагубствам пасля таго, як трапілі пад пагрозу дэпартацыі.

Адзін з іх, Сяргей Барысаў з Лоева, якога збіраліся выслаць на 4 гады ў Расію, у адной з перадсмяротных запісак ускосна абвінаваціў міліцыянтаў у сваёй смерці. Запіска, адрасаваная непасрэдна міліцыі, у СМІ не патрапіла, але ў іншай запісцы мужчына скардзіцца, што яму надакучыла жыць у бязмежжы, а міліцыі няма справы да таго, што ў няшчаснага ў Беларусі застаюцца маці-пенсіянерка ды брат-інвалід. Колькасць каментараў пад публікацыямі пра гэтыя гісторыі зашкальвае — чытачы вінавацяць міліцыю ў бессардэчнасці ды фармалізме.

Логіка міліцыі простая: парушыў закон — прэч з краіны. Але дзе ж іншыя складнікі, акрамя законнасці: гуманізм, імкненне дапамагчы, урэшце — спачуванне? Гаворка ж ідзе пра чалавечае жыццё — пра лёсы дзясяткаў людзей. Бо церпяць не толькі прысуджаныя да высылкі, але іх сем'і. Напрыклад, у Віталя з Буда-Кашалёва, якому пагражала высылка ў Расію, засталіся жонка і шасцёра дачок...

Дый пра законнасць тут можна паспрачацца. Высылка — дастаткова суровае пакаранне, якое ўжываецца ў скрайніх выпадках, калі іншыя абмежаванні не могуць гарантаваць бяспеку дзяржаўным інтарэсам ці інтарэсам насельніцтва. Ну якім чынам пагражала гэтым самым інтарэсам тое, што загінулыя мужчыны былі выпівохамі і мелі адміністрацыйныя пакаранні за з'яўленне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане?

Атрымліваецца, калі ты выпіваеш на вуліцы і маеш у кішэні беларускі пашпарт — ты больш бяспечны для грамадства, чым калі выпіваеш і маеш расійскі ці які іншы пашпарт? Загінулы Віталь, бацька шасці дачок, наогул меў толькі адно падобнае спагнанне — перад Новым годам трапіўся нецвярозы на працы. Яго звольнілі, а пасля анулявалі часовы від на жыхарства.

> **Пабудаваць дзяржаву з чалавечым абліччам у нас не атрымліваецца. У нас не перавыхоўваюць, а караюць; не дапамагаюць, а знішчаюць**

Зразумела, што такія паводзіны — не ўзорныя, што мужчын папярэджвалі пра магчымыя наступствы... Але ці заслугоўваюць яны такога жорсткага абыходжання? Звальненне з працы ў рэгіёне, дзе кожная вакансія на вагу золата, а дома шасцёра дзяцей — ужо пакаранне. Але не, трэба дабіць! Трэба прыгразіць высылкай і забаронай на ўезд у Беларусь на 10 гадоў — менавіта такія пагрозы былі з боку міліцыі, па словах жонкі Віталя. І давесці чалавека да адчаю...

Урэшце, гэтыя людзі не адзін год пражылі ў Беларусі, у іх тут жывуць сваякі, ёсць маёмасць, Сяргей Барысаў у Лоеве і нарадзіўся. Што іх магло чакаць у Расіі, дзе ні сям'і, ні дома, ні працы, ні грошай? «Я не ведаю, куды ехаць. Для іх гэта проста, а для мяне — у нікуды», — напісаў у адной з перадсмяротных запісак Сяргей Барысаў. Няўжо нельга выкарыстоўваць іншыя формы спагнання — напрыклад, адпраўляць парушальнікаў на грамадскія працы ці яшчэ што? Але наўпраць нешта прыдумляць, калі можна скарыстацца старадаўнім прынцыпам: «няма чалавека — няма праблемы». Выслаць з краіны — і ніхто не будзе псаваць статыстыку. Жонка, дзеці — ды пераб'юцца неяк, а не пераб'юцца — дзяцей забярэм у інтэрнат.

Пабудаваць дзяржаву з чалавечым абліччам у нас пакуль не атрымліваецца. У нас не перавыхоўваюць, а караюць; не дапамагаюць, а знішчаюць на роўным месцы. Ці лягчэй бы стала працаваць мясцовым аддзяленням міліцыі, каб Віталь, Сяргей ды Мікалай з'ехалі ў Расію? Наўрад ці. У рэгіёнах такі ўзровень п'янства, што адным мірным выпівохам менш, адным больш — ні на што гэта не паўплывае. Тады ў чым рацыянальнае зерне рашэнняў пра высылку, ды яшчэ на вялікія тэрміны?

А рацыянальнага зерня няма. Дзяржаўны механізм працуе як заведзены, пра наступствы ніхто не задумваецца. Плюс адвечная праблема з кадрам. Ды і цынізму ў іх хапае — так, інспектарка, якая рыхтавала пастанову пра высылку аднаго з загінулых, папракала яго няшчасную маці, што яе пазбавілі прэміі, бо несвоечасова выслала мужчыну. Не здзіўлюся, калі ў аддзелах ляжаць разнарадкі — колькі людзей высылаць штомесяц. Гэта ў СМІ прасачыліся толькі тры гісторыі, а колькі іх насамрэч — ведаюць толькі ў міліцыі.

Днямі калегія Гомельскага абласнога суда разглядзела справу ўкраінца Сяргея Працэнкі, якога прысудзілі да трохгадовай высылкі. Гісторыя падобная на іншыя — пратакол «за п'янку» (ішоў дадому з кавярні, дзе адзначалі нараджэнне дзіцяці ў сябра), дома трое дзяцей... Сяргей вырашыў не здавацца і абскардзіць пастанову, бо гэта адзінае парушэнне за год, а для высылкі патрэбна мінімум пяць. Пасля рэзанансных гісторый пра самагубствы рашэнне пра высылку было адмененае. Бядзе не далі ўвайсці яшчэ ў адзін дом.

# Правядзенне экскурсій для школьнікаў у Курапатах — на сумленні настаўнікаў

**Ініцыятары калектыўнай прапановы «Аб уключэнні ў школьную праграму для старэйшых класаў пазнавальных экскурсій ва ўрочышча Курапаты» атрымалі афіцыйны адказ з Міністэрства адукацыі.**

Як вынікае з дакумента, беларуская ўлада не гатовая ладзіць масавыя экскурсіі школьнікаў у Курапаты. Фармальна — па прычыне адсутнасці атэставаных экскурсаводаў для гэтага маршрута і адсутнасці гэтага аб'екта ў Пераліку экскурсійных аб'ектаў і турыстычных маршрутаў, якія рэкамендаваныя для наведвання навучэнцамі па вучэбных прадметах.

Пры гэтым, згодна з дакументамі, пэўныя варыянты экскурсіі ва ўрочышча Курапаты ў рамках навучальнай праграмы ўсё ж існуюць. І такія прапануюцца па 2 прадметах — «Беларуская літаратура» і «Гісторыя Беларусі». Вось што гаворыцца ў адказе за подпісам намесніка міністра Раісы Сідарэнка:

«Пры гэтым для больш поўнага вывучэння тэмы "Максім Гарэцкі" па прадмеце "Беларуская літаратура" ў ходзе правядзення вучэбных і факультатыўных заняткаў, выхаваўчых мерапрыемстваў прапануюецца наведванне экскурсійнага аб'екта "Крыж Максіму Гарэцкаму ва ўрочышчы Курапаты"»;

«Па прадмеце "Гісторыя Беларусі" прадугледжана правядзенне вучэбных заняткаў "Наш край", якія дазваляюць пазнаёміць навучэнцаў з асаблівасцямі гістарычнага развіцця таго ці іншага рэгіёна, уключаючы Мінск з яго наваколлем, у тым ліку і з наведваннем урочышча Курапаты».

«Наколькі рэалістычныя такія экскурсіі ў фармаце дадатковага вывучэння тэмы Максіма Гарэцкага — пакажа час. Відавочна, што правядзенне падобных экскурсій яшчэ залежыць і ад сумлення і волі саміх настаўнікаў, якія згодна з дадзенай пастановай могуць ладзіць наведванне мемарыяла ў Курапатах у рамках факультатыўных заняткаў», — каментуе рашэнне чыноўнікаў адзін з ініцыятараў прапановы Алег Корбан.

Нагадаем, увосень 2018 года актывісты грамадскага аб'яднання «Альтэрнатыва» (зарэгістравана ў Латвіі) сабралі 2 000 подпісаў мінчукоў пад зваротам да Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь з прапановай уключыць у школьную праграму прадмета «Гісторыя Беларусі» пазнавальныя экскурсіі ва ўрочышча Курапаты — месца масавай згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30–40-х гадоў XX стагоддзя.

**Паводле прэс-рэлізу**

# Беларусы кідаюць гуляць у латарэі

Павел КІРЫЛАЎ

**Мінфін падаў дадзеныя з Дзяржаўнага рэестру латарэяў.**

Усяго ў Беларусі цяпер 35 латарэяў. З іх 28 належаць рэспубліканскаму унітарнаму прадпрыемству «Беларускія латарэі», а 7 — РУП «Нацыянальныя спартовыя латарэі».

У «Нацыянальных спартовых латарэй» заснавальнік — Міністэрства спорту і турызму. «Беларускія латарэі» заснавала ў 1999 годзе Упраўленне справамі прэзідэнта. Паводле афіцыйнай мэты, грошы ад правядзення латарэй павінны ісці на дабрачынныя акцыі, а таксама ў бюджэт для фінансавання важных сацыяльных праграмаў. Карацей, сацыяльная палітыка забяспечваецца не толькі падаткамі грамадзян, але і іхняй азартнасцю.

Аднак апошнімі гадамі беларусы сталі меней спадзявацца на ўзбагачэнне праз латарэі. Мы вывучылі статыстыку вядомых гульняў «Суперлато» і «Ваша лато». Аб'ёмы продажаў латарэйных білетаў у іх скараціліся ў разы. Дый вы самі маглі заўважыць, што, адпаведна, і прызы сталі сціплейшыя. Шмат іх толькі на святочныя разыгранкі — з нагоды 8 сакавіка ці на Новы год.

Напрыклад, «Ваша лато» прадавала ў студзені гэтага года ад 22 да 25 тысяч білетаў на кожны розыгрыш. У студзені 2018-га было ад 25 да 34 тысяч. А цяпер возьмем студзень 2015 года: прадавалася па 80–90 тысяч латарэйных білетаў на розыгрыш. А ў 2013 годзе беларусы набывалі амаль удвая болей латарэек гэтай гульні.

Па больш папулярным «Суперлато» такая самая дынаміка: 50–70 тысяч білетаў цяпер, 70–100 тысяч — год таму, а ў студзені 2015-га народ купляў на кожны розыгрыш больш за чвэрць мільёна білетаў.

Адным з апошніх захадаў уладаў па заахвочванні беларусаў гуляць у латарэі стаў указ Аляксандра Лукашэнкі ад 7 жніўня 2018 года, якім ён унёс змены ў Палажэнне аб парадку ажыццяўлення латарэйнай дзейнасці.

Так, дапушчальны памер прызавога фонду электронных латарэй істотна ўзрос — да 95% ад прынятых ставак. Было 45–50%. Мэта — «забеспячэнне спрыяльных умоваў для арганізацыі і правядзення электронных латарэй, павелічэння аб'ёмаў рэалізацыі латарэйнай прадукцыі і, як следства, грашовых паступленняў у бюджэт для фінансавання мерапрыемстваў сацыяльнага характару».

Карацей, цяпер гульцоў будуць больш актыўна спакушаць у інтэрнэце. Цікава, што іншым сваім указам у гэты дзень кіраўнік краіны легалізаваў у Беларусі анлайн-казіно.

# 0,21 працэнта справядлівасці

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Менавіта на столькі можна разлічваць у беларускіх судах.**



Мінскі гарадскі суд у асобе суддзі Яўгена Хаткевіча пакінуў у сіле прысуды за акцыю з папяровымі караблікамі ля Расійскай амбасады ў Мінску двум актывістам і карэспандэнтцы НЧ.

Нагадаю, 26 лістапада «Моладзь БНФ» выйшла выступіць супраць захопу ўкраінскіх караблёў расійскімі ВМС і запрасіла ўсіх ахвотных прынесці да амбасады Расіі ў Мінску папяровыя караблікі. Акт салідарнасці асвятлялі журналісты, у тым ліку і аўтарка гэтых радкоў. І неўзабаве я атрымала пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве і запрашэнне ў суд Цэнтральнага раёна сталіцы.

Пасяджэнне стварала падманлівае ўражанне лібералізацыі (як выявілася пазней, на судовыя рашэнні гэта ніяк не паўплывала). Суддзя Іван Касцян вёў працэс на беларускай мове і задаволіў усе заяўленыя фігурантамі справы хадайніцтвы. Што не перашкодзіла яму выпісаць усім тром падсудным па 20 базавых (на хвіліначку, тройчы па 490 рублёў) штрафу, а адносна майго прысуду даць заключэнне, што «асвятленне мерапрыемства не выключае факта прыняцця ўдзелу ў дадзеным мерапрыемстве». Апусцім тое, што гэтага не дапускаюць усе кодэксы журналісцкай этыкі — суддзя Касцян наўрад ці з імі знаёмы. Затое, відаць, ён дасканала ведае негалоснае распараджэнне: любыя, нават самыя супярэчлівыя паказанні сведак-міліцыянтаў прымаць за неаспрэчны факт.

Суд наступнай інстанцыі, куды мы звярнуліся са скаргай, таксама дэманстраваў нечуваную дэмакратычнасць. Мы былі шчыра здзіўленыя, калі наша хадайніцтва аб пераносе разгляду скаргаў на іншую дату задаволілі (асабістая прысутнасць на абскарджванні не з'яўляецца абавязковай). Праўда, у дзень разгляду каля кабінета нас ужо чакалі двое супрацоўнікаў у цывільным, адзін з якіх разам з намі зайшоў у залу, другі застаўся на «першай лініі абароны». Ну, а раптам што: фігуранты справы — небяспечныя элементы, «капітаны папяровай флатыліі», як ахрысцілі нас на адным інтэрнэт-рэсурсе.

«А вы — з праваахоўных органаў?» — цікавімся ў правакатага. «Мы — з грамадскіх аб'яднанняў». Што ж, да пільнай увагі вядомых «грамадскіх аб'яднанняў» беларусы прызвычаіліся яшчэ ў далёкім 1937-м. Нічога добрага прысутнасць такіх «грамадзян» звычайна не абяцала.

Але канчатковае перакананне ў перадвызначанасці пастановы і па гэтым, яшчэ не распачатым пасяджэнні, у мяне з'явілася, калі я ўбачыла вочы суддзі. Халодныя, яны глядзелі не на нас — скрозь нас. У гэтых вачох не было ні злобы, ні сарказму, ні нянавісці. У іх не было абсалютна нічога — і гэта самае страшнае. З такімі вачыма людзі не жывуць. З такімі вачыма людзі служаць, падпарадкоўваюцца, залежаць, прагінаюцца, поўзаюць, выконваюць загады... Таму чакаць ад суддзі Хаткевіча (з уласнай ініцыятывы беларускамоўнага!), які прысуджаў арышты пасля Плошчы–2010 і шматлікія штрафы грамадскім актывістам, адмены пастановы суддзі Касцяна не выпадала.

Зрэшты, каб чытач не абвінаваціў мяне ў перадузятасці да канкрэтных асобаў, проста прывяду сухія лічбы, апублікаваныя надоечы парталам tut.by. За першае паўгоддзе 2018 года беларускія суды асудзілі 20 236 чалавек, а апраўдалі 43. Гэта 0,21 працэнт. Я не сцвярджаю, што ўсіх асуджаных пакаралі незаслужана. Але, як паказвае практыка, неабгрунтаваныя прысуды ў Беларусі — не рэдкасць. Таму 0,21 працэнта справядлівасці — гэта пакуль максімум, які можна чакаць ад беларускага правасуддзя.

# У Слуцку падтрымалі заклік да ўлад дбаць пра беларускую мову

Марыя ВЕРАС

**Праваабаронца Алег Мацкевіч звярнуўся ў Барысаўскі райвыканкам і Упраўленне па адукацыі са зваротамі наконт Міжнароднага дня роднай мовы. З такім жа зваротам на імя старшыні Слуцкага райвыканкама Андрэя Янчэўскага звярнулася і старшыня Слуцкага таварыства беларускай мовы Зінаіда Цімошак.**

У сваім лісце яна звяртае ўвагу на праблему недастатковага ўжывання ў Слуцку беларускай як дзяржаўнай мовы.

«Зараз у Слуцку склалася такая сітуацыя, што ўсебаковае развіццё і рэальны статус дзяржаўнай мовы мае толькі руская. На рускай мове размаўляюць чыноўнікі і вядзецца асноўнае справаводства, на рускай мове адбываецца навучанне ў школах горада і напісаны ўказальнікі вуліц горада», — піша ў сваім звароце грамадская актывістка.

Цімошак лічыць, што згодна з заканадаўствам, райвыканкам адказвае не толькі за эканамічнае жыццё, але і за культурнае жыццё беларускага горада. Ён павінен клапаціцца пра адраджэнне беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці жыхароў горада і садзейнічаць, каб беларуская мова мела рэальны статус дзяржаўнай мовы.

— Не рэгіянальныя таварыствы беларускай мовы, а менавіта мясцовыя органы ўлады маюць вялікія магчымасці і паўнамоцтвы ў справе развіцця нацыянальнай культуры і фарміравання нацыянальнай самасвядомасці. Ужо даўно прыйшоў час не прасіць, а патрабаваць ад уладаў не парушаць заканадаўства ў адносінах да беларускай як дзяржаўнай мовы, — гаворыць Зінаіда Цімошак.

Цімошак просіць «унесці прапановы службам і структурным падраздзяленням райвыканкама па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы, распрацаваць і прыняць планы па пашырэнні ўжывання беларускай мовы ў дзейнасці гэтых арганізацый, распрацаваць і правесці мерапрыемствы па пашырэнні беларускай мовы ў грамадскай прасторы Слуцкага раёна».

Упраўленню па адукацыі райвыканкама, Слуцкаму райвыканкаму прапануецца разгледзець магчымасць распрацоўкі паўнавартаснай арыгінальнай беларускамоўнай версіі абодвух сайтаў (зараз яны — толькі на рускай мове), правесці ва ўстановах адукацыі Слуцкага раёна мерапрыемствы, прысвечаныя Міжнароднаму дню роднай мовы, актывізаваць працу па стварэнні груп з беларускай мовай навучання ва ўстановах дашкольнай і агульнай сярэдняй адукацыі, унесці ў план працы Упраўлення па адукацыі на 2019–2020 навучальны год шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на папулярызацыю і ўжыванне беларускай мовы.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Антыадукацыя, і да чаго яна вядзе

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Адзін хлопчык начамі не высыпаўся. Што рабіць? Прымушаць яго раней класціся спаць і перад сном забіраць гаджэты? Не, перанесці навучальны час на гадзіну пазней. Зараз хлопчык не спраўляецца са школьнай праграмай. Якое рашэнне?**


Фота www.arsvest.ru

На нарадзе аб развіцці нацыянальнай сістэмы адукацыі Аляксандр Лукашэнка заявіў, што яму даводзіцца кожны дзень сутыкацца са школьнымі праграмамі, таму ён бачыць усе недахопы, паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы.

«Падобна на тое, матэматыкаў адных толькі рыхтуем. Давайце гаварыць шчыра, не хачу быць рэтраградам: нам, напэўна, менш за ўсё трэба ў краіне матэматыкаў. Паняцці ў матэматыцы павінны быць, таму што мы ў жыцці заўсёды сутыкаемся з матэматыкай. Але ў вялікіх матэматыках патрэба менш за ўсё», — канстатаваў Лукашэнка.

«У школе матэматыку пачынаем выкладаць так, што адпужваем дзяцей ад гэтай матэматыкі, ад вучобы, — заўважыў ён. — Я не хачу, каб матэматыкі пакрыўдзіліся на мае развагі, я нічога дрэннага пра іх не сказаў. Але яшчэ раз паўтараю: матэматык — гэта рэдкасць. Давайце рыхтаваць матэматыкаў дзесьці на факультатыве, але ў асноўным у ВНУ. А мы пачынаем універсітэцкія праграмы перакідваць у школу. Навошта вы гэта робіце?»

«Нядаўна я паглядзеў, як у восьмым класе вывучаюць біялогію: слухайце, палова курса — чарвякі! Яго стан, жыццядзейнасць і што трэба зрабіць чарвяку, каб ён быў паразітам. Ну адкажыце мне на гэтае пытанне. Добра, для прасунутых хай будзе. Так, трэба ведаць пра гэтую істоту, але навошта яе скрупулёзна вывучаць? — спытаў ён. — Калі ты будучы біёлаг, калі біялогію ўзяў за аснову, так, гэта трэба. Але колькі такіх у нас? Вось у чым праблема».

Праблема, насамрэч, не ў гэтым. Праблема ў тым, што школа павінна даваць базавую адукацыю. Біялогія (і чарвякі) у школе — гэта аснова не толькі біёлагаў. Гэта аснова медыцыны. І калі мы так ставімся да адукацыі ў біялогіі — чаго мы потым будзем наракаць на нашу медыцыну?

Я таксама бацька. І я таксама незадаволены школьнымі праграмамі. Але я незадаволены не іх «складанасцю», а іх прымітыўнасцю. Што тычыцца той жа матэматыкі, то мая дачка гэтую матэматыку шчоўкае, як семкі (а семкі яна любіць). І тое, што мы ў свой час у школе праходзілі інтэгралы, а гэта зараз выкінутае з праграмы, мяне бянтэжыць. Немажліва стварыць развітую асобу з прымітыўнай адукацыяй!

Вывучаць матэматыку ў ВНУ альбо на факультатыве? Выбачайце. Давайце пойдзем далей. Адменім астраномію. Навошта нам ведаць, што планета круглая? Давайце думаць, што яна стаіць на кітах. Але тады, спадарства, развітаемся з нашай касмічнай праграмай, забудзем пра спадарожнікавы інтэрнэт і пра спадарожнікавае тэлебачанне.

Навошта нам ведаць, што існуюць нейкія краіны, апроч Еўрасаюза, ЗША, Кітая, Расіі? Адменім геаграфію. Але тады давядзецца развітацца са «шматвектарнай палітыкай», планамі «выйсці на новыя рынкі», і гэтак далей.

Не трэба нам матэматыкі? А што мы будзем рабіць з «Паркам высокіх тэхналогій», які прыносіць нам мільярд прыбытку на год? Нам не патрэбныя «чарвякі»? Што мы будзем рабіць з кітайскім тэхнапаркам, адным з асноўных складнікаў якога з'яўляюцца менавіта біятэхналогіі?

Можна мяне абвінаваціць у неаб'ектыўнасці і ў суб'ектывізме. Але вось што піша з гэтай нагоды Леанід Заіка, эканаміст, які, між іншым, працаваў у Сусветным банку і выкладаў у вядучых ВНУ свету: Вышэйшай школе эканомікі (Берлін), Народным універсітэце Кітая (Пекін), Маскоўскім дзяржаўным універсітэце (Расія), Інстытуце эканамічнага развіцця (Вашынгтон), Санкт-Пяцярбургскім універсітэце (Расія), Кіеўскім (Украіна) і Ташкенцкім (Узбекістан) універсітэтах.

Заіка піша: «Сэнс таго, што адбываецца, — у тым, каб нашы дзеці былі творча развітымі асобамі, а ў школе з імі абыходзіцца як з маленькімі салдафонамі: устань, апрані, вазьмі, гэта зрабі так, гэта не так... Паглядзіце праграмы. Яны нагадваюць нейкі зборнік апошніх фінціфлюшак нават не навукоўцаў, таму што навукоўцы не пайшлі ў школы. Вось у чым праблема... Я нядаўна атрымліваю такую смс: «Паважаныя бацькі, Ваня, Пеця і іншыя абраныя для наведвання спартыўнага мерапрыемства, дзе будзе кіраўнік дзяржавы. Правядзіце з дзецьмі адпаведную работу!» Ім па 15 гадоў, якая можа быць работа?! А настаўнікі ўжо ў паніцы б'юцца, што будзе Лукашэнка. Ну і што?»

Паўтаруся: гэта меркаванне не эканаміста Заікі, не кіраўніка аналітычнага цэнтру «Стратэгія», гэта меркаванне выкладчыка найбуйнейшых, найвядомейшых і аўтарытэтных універсітэтаў свету!

І я, і мае знаёмыя пасля такой навіны насамрэч задумаліся: ці перавесці дзяцей на хатняе навучанне, ці эміграваць з краіны туды, дзе дзецям дадуць нармальную адукацыю. І гэта не жарт.

А вось да чаго гэта вядзе... Міністэрства працы і сацыяльнай абароны агучыла новыя лічбы па мінімальных спажывецкіх бюджэтах беларусаў. Паводле дадзеных міністэрства, каб закрыць мінімальныя патрэбы, працаздольнаму беларусу патрэбны 451 рубель. Прааналізаваўшы банк вакансій Міністэрства працы, журналісты інтэрнэт-рэсурса onliner.by вылічылі, што ніжэй гэтай лічбы чыстымі прапануюць амаль у палове выпадкаў.

Заробак ніжэй гэтага парога прапануюць не толькі грузчыкам, прыбіральшчыкам або кухарам. На такія грошы клічуць педагога-псіхолага ў дзіцячы сад і лекара УГД са стажам працы не менш за пяць гадоў на поўную стаўку ў РНПЦ радыяцыйнай медыцыны і экалогіі ў Гомелі!

І не дзіва, што амерыканская няўрадавая арганізацыя Freedom House апублікавала даклад «Свабода ў свеце — 2019», у якім зноў унесла Беларусь у спіс «несвабодных краін». У рэйтынгу, дзе найвышэйшы ўзровень свабоды краіны ацэньваецца ў 100 балаў, Беларусь набрала толькі 19. Найгоршы беларускі паказчык «несвабоды» — у сферы захавання палітычных правоў.

У выніку Беларусь апынулася дзяржавай з самым горшым паказчыкам свабоды ў Еўропе па версіі Freedom House. Як гаворыцца ў справаздачы міжнароднай арганізацыі, у 2018 годзе ў Беларусі «строгія новыя законы аб СМІ яшчэ больш абмежавалі журналістаў, якія ўжо працавалі ў жорсткіх умовах».

Неадукаваны і бедны чалавек наўрад ці можа быць свабодным...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Васіль Сёмуха



**Сумная навіна прыйшла ўвечары 3 лютага — памёр Васіль Сёмуха. Аўтар шматлікіх перакладаў на беларускую мову, у тым ліку Бібліі, Старога і Новага Запаветаў, «Фауста» Гётэ. Атрымаў Дзяржпрэмію імя Якуба Коласа. 18 студзеня яму споўнілася 83 гады.**

Яго лёс складваўся драматычна ад самага пачатку — яго бацькоў у 1942-м расстралялі фашысты. Здавалася б, сын лесніка павінен быў узненавідзець усё нямецкае, але Васіль Сёмуха, паступіўшы на рамана-германскае аддзяленне філалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, наадварот захапіўся нямецкай мовай і ўжо ў 23 гады пачаў перакладаць «Фаўста» Гётэ. «Мама ведала нямецкую мову, таму і я павінен быў яе вывучыць. Ужо пасля прыйшло асэнсаванне таго, што калі вывучу мову, дык знайду ў немцаў адказы на свае дзіцячыя пытанні: чаму і за што забілі маіх родных?.. З цягам часу нямецкая мова захапіла мяне, і я зразумеў, што нельга жыць ненавісцю да гэтай вялікай нацыі, якая ў той час знаходзілася пад дыктатурай», — казаў ён у інтэрв'ю «Новаму Часу».

Працаваў рэдактарам, інжынерам, настаўнікам нямецкай мовы ў школе, у газеце «Літаратура і мастацтва». У 1972–1994 гадах быў рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Праца Сёмухі была адзначана ордэнам «За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй» (2001), узнагародай Латвіі «Ордэн трох зорак» і дзяржаўнай прэміяй імя Якуба Коласа (1992).

## Вольга Нікалайчык



**Суд скасаваў прымусовы збор грамадскай актывісткі.**

Вольга ў пачатку кастрычніка мінулага года атрымала ад суда Першамайскага раёна вялікі штраф (980 рублёў) за ўдзел у акцыі 9 верасня ў Курапатах. Праз месяц яна аплаціла штраф цалкам і адправіла квітанцыю аб аплаце ў суд.

Здавалася б, на гэтым усё павінна было скончыцца. Аднак у пачатку студзеня новага года актывістка атрымала ад судовага выканаўцы Сцепанюка пастанову аб спагнанні з яе прымусовага збору ў памеры 98 рублёў, а таксама позву ў суд на разгляд справы аб часовым абмежаванні для яе на выезд з Беларусі.

З дапамогай праваабаронцаў «Вясны» Вольга Нікалайчык вырашыла абскардзіць накладзеную судовым выканаўцам санкцыю ў аддзел прымусовага выканання Першамайскага раёна. У выніку начальнік аддзела Кравец вырашыў задаволіць скаргу Нікалайчык і адмяніць накладзены на яе прымусовы збор.

## Лідзія Ярмошына



**Аказваецца, у нас можна агітаваць за сябе як кандыдата ў прэзідэнты і да афіцыйнага пачатку прэзідэнцкай кампаніі. Пра тое паведаміла нязменная старшыня ЦВК.**

Нагодай сталася тое, што былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў і палітвязень Сяргей Скрабец заявіў пра пачатак кампаніі па падрыхтоўцы да прэзідэнцкіх выбараў. Скрабец паведаміў, што кожнаму чальцу яго ініцыятыўнай групы, які збярэ тысячу подпісаў цягам месяца, ён заплаціць 100 долараў за сабраны подпіс пасля перамогі. «Калі пытаюцца, дзе я вазьму такія грошы, я адказваю: гэта кошт толькі аднаго канфіскаванага катэджа ў Драздах».

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына патлумачыла «Радыё Свабода», што ніхто з патэнцыйных удзельнікаў прэзідэнцкай гонкі, якія абвясцілі пра намер балатавацца ў прэзідэнты, заканадаўства не парушаў. «Гэта абсалютна нармальна. У нашым выбарчым заканадаўстве няма паняцця датэрміновай агітацыі».

Затое ёсць артыкул 47 Выбарчага кодэксу Беларусі, паводле якога «пры правядзенні перадвыбарчай агітацыі, агітацыі па рэферэндуму забараняецца ўздзейнічаць на грамадзян абяцаннямі перадачы ім грашовых сродкаў, матэрыяльных каштоўнасцяў». Каго чакае адказнасць за парушэнне заканадаўства? Скрабца, які пра гэта выказаўся, ці Ярмошыну, якая гэта ігнаруе?

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Напярэдадні палітычнай «вакханаліі»

**Сучасныя выбаршчыкі, у адрозненне ад выбаршчыкаў савецкіх, маюць магчымасць выбіраць, незалежна ад справядлівасці падліку галасоў.**




Паводле традыцыі, якая склалася яшчэ ў часы «дарагога Леаніда Ільіча Брэжнева», кожнаму году пяцігодкі варта прысвойваць персанальную назву. Напружваць уяўленне для гэтага зусім не абавязкова. Перадапошні год пяцігодкі (2019) цалкам мог бы стаць вырашальным, а апошні (2020) — завяршальным.

Час, аднак, не стаіць на месцы, таму калі праводзіць паралелі з мінулым, неабходна памятаць папярэджанне старажытнагрэчаскага філосафа Геракліта пра немагчымасць двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку. У якасці ілюстрацыі прапаную звярнуцца да грамадска-палітычнай падзеі, што здарыцца неўзабаве, якую на афіцыйнай мове ў нас прынята называць «выбарамі».

Выбары ў СССР праводзіліся на безальтэрнатыўнай аснове. На думку іх арганізатараў, яны дэманстравалі адзінства партыі і народа, што і пацвярджалася амаль 100-працэнтнай яўкай і такім жа высокім працэнтам галасоў, якія нязменна атрымлівалі кандыдаты блока камуністаў і беспартыйных.

У тых, хто галасаваў, было іншае меркаванне (слова «электарат» і яго вытворныя адсутнічалі ў слоўніку «чалавека савецкага»), і гэтым меркаваннем арганізатары выбараў не цікавіліся. А дарэмна. Пры наяўнасці элементарнай дапытлівасці яны, напэўна, змаглі б пазбегнуць «найбуйнейшай геапалітычнай катастрофы XX стагоддзя».

Але лепш позна, чым ніколі. Былы расійскі, а цяпер амерыканскі антраполаг Аляксей Юрчак не пашкадаваў часу і грошай для запаўнення прагалу ў вывучэнні асаблівасцяў электаральных паводзінаў «чалавека савецкага». Абмяжуюся адным прыкладам з кнігі «Гэта было назаўсёды, пакуль не скончылася»: «Калі я пачаў хадзіць на выбары [у 1980 годзе], я звычайна даволі слаба ўяўляў сабе, што гэта былі за выбары і за каго я павінен галасаваць. Я ішоў на выбарчы ўчастак, браў бюлетэнь з імем кандыдата і кідаў яго ў выбарчую скрыню. У гэтым для мяне палягала ўся працэдура галасавання. Праз некалькі хвілін пасля гэтага імя кандыдата звычайна забывалася. Шчыра кажучы, для мяне было ўсё роўна, ці з'яўляюцца такія выбары сапраўднымі, ці не. І над тым, чаму мне гэта абыякава, я таксама не задумваўся (Сяргей, 1962 года нараджэння, жыхар Калінінградскай вобласці)».

Гэта было назаўсёды, пакуль не скончылася. А скончылася гэта справа таксама нечакана і імкліва, як у 1917 годзе завяршыла сваю 300-гадовую гісторыю дынастыя Раманавых. Як тут не прывесці выказванне сучасніка тых падзей, якое стала афарызмам, рускага рэлігійнага мысляра Васіля Розанава: «Русь зліняла за два дні. Самае большае — за тры».

### Бездзеяслоўныя прапановы

Але вернемся да Сяргея з Калінінградскай вобласці. Яго дзеянні на выбарчым участку не з'яўляліся бессэнсоўным актам, як гэта можа падацца на першы погляд, «паколькі з дапамогай такога галасавання ўзнаўляліся не толькі структуры ўлады, але таксама правы, магчымасці і свабоды суб'екта, у тым ліку таксама свабода дзейнічаць насуперак уладзе», — сцвярджае Юрчак.

З узнаўленнем структур улады праз фармалізаваныя працэдуры яшчэ можна пагадзіцца, але пры чым тут свабода суб'екта?

Растлумачу на асабістым прыкладзе. У канцы 1970-х гадоў мяне, старшага майстра 16-га цэха завода «Транзістар», вырашылі прызначыць намеснікам начальніка цэха. Для афармлення павышэння па службе патрэбная была пустая фармальнасць — мая заява ў партыю. Але я адмовіўся выконваць фармальнасць, і пытанне аб маім прызначэнні было знятае.

Між тым, новая пасада давала магчымасці ўплываць на тэхналагічны працэс ужо не ў маштабах вытворчага ўчастка, а ў маштабах цэха, што было раўназначна пашырэнню маёй асабістай свабоды. Усё, што для гэтага было патрэбна, — толькі выканаць фармальнасць.

Перанясем гэты прыватны прыклад на ўсё грамадства. У гады так званага «брэжнеўскага застою» фармалізм, які спускаўся зверху, стаў нормай жыцця. Парадокс, аднак, палягаў у тым, што чым больш пакорліва савецкі чалавек згаджаўся прытрымлівацца формы, тым больш у яго ўзнікала магчымасцяў напаўняць яе сваім зместам. У прыватнасці, першамайскія і кастрычніцкія дэманстрацыі, закліканыя паказаць адзінства партыі і народа, трансфармаваліся ў законныя нагоды для калектыўных п'янак.

Каб апісваць адарваную ад жыцця рэальнасць, камуністычным ідэолагам давялося стварыць новую мову (савецкі варыянт навамоўя Оруэла). У якасці прыкладу прывяду сказ з перадавіцы «Праўды» ад 1 ліпеня 1977 года, што была апублікаваная пад загалоўкам «Ідэйнасць савецкага чалавека»: *«И в чеканных строках выдающегося документа современности, и в живой действительности, в повседневных буднях коммунистического строительства раскрывается перед миром во всем величии и красоте духовный образ борца и созидателя, гражданина развитого социалистического общества».*

Сказ складаецца з 33 словаў і толькі аднаго дзеяслова. Гэта прадуманы прыём, бо дзеяслоў — вораг прапагандыстаў «эпохі застою». Дзеяслоўныя фразы ўяўляюць інфармацыю ў выглядзе новых сцверджанняў, якія можна аспрэчыць, у той час як іх бездзеяслоўныя калегі нібы адсоўваюць падзеі ў мінулае, што спрыяе пераўтварэнню фактаў у заведама вядомыя і бясспрэчныя.

Пакорлівае выкананне рытуалаў абсалютнай большасцю савецкіх людзей выпрацавала адчуванне маналітнасці і нязменнасці сістэмы. Аднак менавіта гэтая ўсеагульная пакорлівасць спрыяла з'яўленню новых ідэй і сэнсаў, якія паступова зрабілі сістэму, адрозную ад той, якой яна сама сабе здавалася.

Яе патэнцыйная нестабільнасць была непрыкметная ўжо праз адсутнасць мовы, на якой яна магла быць апісаная і прааналізаваная. Таму тое, што здавалася ўсё больш маналітным і стабільным, рабілася ўсё далікатнейшым і хісткім. Гэтыя два працэсы ішлі поруч і фармалі адзін аднаго.

**У створанай «беларускай мадэлі» электаральныя перамогі праўладных кандыдатаў неэлегантнымі не могуць быць апрыёры, бо любая перамога па балах, любы намёк на магчымасць другога туру азначалі б наяўнасць у грамадстве апазіцыі цяперашняму курсу**

### Непераканаўчая перамога ў першым туры

Гісторыя паўтараецца. Але нягледзячы на тое, што да ўдзелу ў выбарах сёння, як правіла, дапускаюцца ўсе ахвочыя, выбары ў Беларусі па-ранейшаму застаюцца безальтэрнатыўнымі. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ўлады для маскіроўкі безальтэрнатыўнасці зноў вымушаныя звяртацца да навамоўя.

У персаналісцкай аўтакратыі ўклад адзінага палітыка (АП) і ў гэтым, здавалася б, прыватным пытанні, натуральна, стаўся вырашальным. Як тут ні прыгадаць пра «элегантную перамогу»! Без гэтага фразеалагізму сёння немагчыма ўявіць абмеркаванне як перспектыў, так і вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, незалежна ад іх парадкавага нумару.

У створанай пад кіраўніцтвам АП «беларускай мадэлі» электаральныя перамогі праўладных кандыдатаў неэлегантнымі не могуць быць апрыёры, бо любая перамога па балах, любы намёк на магчымасць другога туру азначалі б наяўнасць у грамадстве апазіцыі цяперашняму курсу. Падкрэслю, гаворка ідзе не пра апазіцыю ў выглядзе групы маргіналаў, што адпрацоўвае заходнія гранты, а пра апазіцыйную частку грамадства.

Прызнанне такой апазіцыі было б першым крокам на шляху да новай перабудовы, бо разбурыла б міф пра адзінства грамадства, што згуртаванае вакол фігуры АП.

Падтрымліваць жа стабільнасць з дапамогай архаічнай уладнай «вертыкалі» ў грамадстве, у якім шляхам самаарганізацыі фармуюцца групы, што ўсведамляюць свае інтарэсы, — задача не з простых. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што дзяржава, якая прэтэндуе на званне «донара еўрапейскай стабільнасці», знаходзіцца ў групе сусветных лідараў па колькасці супрацоўнікаў органаў унутраных спраў на 1 тысячу насельніцтва.

Але як немагчыма двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку, так немагчыма вярнуцца да савецкага стандарту галасавання, што быў апісаны Юрчакам. Участковыя выбарчыя камісіі не абавязкова лічаць пазнакі ў бюлетэнях, але тыя, хто галасуе, перш чым апусціць бюлетэнь у скрыню, абавязаныя такія пазнакі паставіць (запоўніць бюлетэнь). Таму яны здзяйсняюць свой выбар незалежна ад падліку галасоў. Гэтым сучасны электарат адрозніваецца ад савецкіх выбаршчыкаў.

Зразумела, і сёння шмат каму не істотна, «ці з'яўляюцца такія выбары сапраўднымі, ці не», але толькі таму, што абвяшчаюцца пераможцамі кандыдаты, за якіх, як правіла, галасуе большасць выбаршчыкаў.

У якасці ілюстрацыі прывяду дадзеныя апытання НІСЭПД, атрыманыя па гарачых слядах прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. Прынялі ўдзел у галасаванні тады 70% выбаршчыкаў. Свае галасы за АП аддалі 35,6% ад спісачнага складу выбаршчыкаў (50% ад колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні). Выбары прызналі свабоднымі і справядлівымі 41% апытаных, несвабоднымі і несправядлівымі — 33%, не змаглі адказаць — 24%.

Статыстыка для АП пераможная, але з улікам 3-працэнтнай памылкі выбаркі, перамога ў першым туры выглядала непераканаўча. Вось і атрымліваецца, што, нягледзячы на тое, што ўсё схоплена, каленкі дрыжаць, і любыя выбары ўспрымаюцца як палітычная «вакханалія», пра што і абвясціў АП 13 лістапада 2018 года, калі прымаў чарговыя кадравыя рашэнні.

# Я не хачу ў Расію! А вы?



Уладзімір МАЦКЕВІЧ

**Незалежнасць нашай краіны — наша агульная каштоўнасць, наш здабытак. Калі мільён грамадзян выкажа сваю пазіцыю — з гэтым ніхто не зможа не лічыцца. І тады мы выйдзем на Плошчу святкаваць чарговыя ўгодкі нашай незалежнасці, а не пратэставаць супраць яе продажу.**

## Адвесці бяду, пакуль яна не здарылася

Не варта чакаць, пакуль бяда прыйдзе ў дом, трэба прыняць меры, каб яна наогул не здарылася. Ад выпадковых непрыемнасцяў людзі страхуюцца, але большасць непрыемнасцяў і бедаў зусім не выпадковыя, яны ўзнікаюць ад нядбайнасці, бестурботнасці, недальнабачнасці, самазаспакоенасці. І ад глупства. Гэта калі людзі самі напрошваюцца на непрыемнасці, бяздумна рызыкуюць, не жадаюць заўважаць пагрозу.

Пагроза страты незалежнасці нашай краіны існуе з 1994 года, калі тры з шасці перадвыбарчых прэзідэнцкіх праграмаў, так ці інакш, утрымлівалі адмову ад атрыбутаў незалежнасці. У 1998 годзе былі падпісаны пагадненні, якія адкрывалі юрыдычныя магчымасці для паглынання Беларусі Расіяй. І вось ужо 20 гадоў мы жывём з гэтай пагрозай.

У 2018 годзе сітуацыя абвастрылася. У СМІ разгарнулася шырокая кампанія, якая змяшчае, па большай частцы, фэйкавыя навіны і здагадкі палітыкаў, экспертаў і каментатараў. Інфармацыйная хваля падмацоўвалася прызначэннем расійскага пасла з сумнеўнай рэпутацыяй, заявамі расійскага прэм'ер-міністра на беларускай зямлі, дакучлівымі запэўненнямі беларускага кіраўніка аб сваім суверэнітэце, падатковым манеўрам Расіі, частымі безвыніковымі сустрэчамі кіраўнікоў дзвюх краін.

Я памятаю пра пагрозу страты незалежнасці, ведаю пра дамоклаў меч, падвешаны недальнабачнай і антынацыянальнай палітыкай рэжыму яшчэ ў канцы 1990-х гадоў. Але я нічога не ведаю пра прадмет апошніх перамоваў кіраўнікоў Беларусі і Расіі, пра планы і намеры дыктатараў, пра тое, у якім стане зараз знаходзіцца працэс «інтэграцыі», і ці ідзе працэс наогул.

## Што я ведаю і чаго не ведаю

Я ведаю, што пытанне пра інкарпарацыю Беларусі ў Расію ўсе апошнія дзесяцігоддзі не здымалася з парадку дня ў Крамлі, але заўсёды змяшчалася ў «доўгую скрыню», адкладалася на потым. Але я не ведаю, пад якім нумарам гэта пытанне стаіць у актуальным парадку дня.

Я ведаю, што Уладзімір Пуцін не збіраецца сыходзіць з пасады кіраўніка Расіі пасля заканчэння чарговага прэзідэнцкага тэрміну, і ў прэзідэнцкім атачэнні прапрацоўваюцца некалькі сцэнараў падаўжэння яго паўнамоцтваў. Усе сцэнары, так ці інакш, маюць на ўвазе перапісванне Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі. Але для змены Канстытуцыі патрэбныя важкія прычыны і падставы. У распрацоўцы знаходзіцца некалькі варыянтаў, прыдумляюцца розныя прычыны і падставы для змены Канстытуцыі. Адной з падстаў можа стаць аб'яднанне Расіі і Беларусі ў адзіную дзяржаву. Але я не ведаю, ці з'яўляецца варыянт аб'яднання асноўным, ці толькі запасным.

Я ведаю, што расійскімі прапагандыстамі распаўсюджваюцца два супярэчныя міфы пра Беларусь. Асноўны міф сцвярджае, што беларусы і рускія — адзін народ, нічым адзін ад аднаго не адрозніваюцца, і ўсе беларусы хоць цяпер гатовыя з радасцю і ўдзячнасцю ўліцца ў Расію, толькі Лукашэнка і яго асяроддзе гэтаму перашкаджаюць.

Іншы міф прыпадабняе Беларусь да Украіны, дзе тон задаюць «западэнцы», нацыяналісты, «бандэраўцы», і вось-вось здарыцца беларускі майдан, які Расія абавязаная прадухіліць любой цаной.

Але я не ведаю, у які з гэтых двух міфаў больш вераць у Расіі, і які з іх стане афіцыйнай версіяй Крамля ў выпадку рэалізацыі сцэнару інкарпарацыі Беларусі. Ад гэтага залежыць тое, наколькі грубай і крывавай будзе рэалізацыя.

Я ведаю, што ўсе словы Лукашэнкі пра незалежнасць і суверэнітэт — пустая рыторыка. Каштоўнасцю і мэтай для яго з'яўляецца толькі ўлада. Пакуль незалежнасць і суверэнітэт Беларусі застаюцца ўмовамі яго ўлады. Ён будзе гатовы прыняць і іншыя ўмовы, замест гэтых, калі кошт яго задаволіць. Гандаль незалежнасцю працягваецца ўжо больш за два дзясяткі гадоў, значная частка суверэнітэту ўжо прададзеная. Але я не ведаю, пра што гандлююцца кіраўнікі Расіі і Беларусі гэтым разам. Што выстаўлена на продаж і якая цана?

Я ведаю, што за пагадненне аб так званай Саюзнай дзяржаве Беларусі і Расіі мы заплацілі вялікую цану. Развіццё краіны затармазілася на дзясяткі гадоў. Мы страцілі магчымасць зрабіць нашу прамысловасць канкурэнтаздольнай пры рынкавых цэнах на энерганосьбіты, паставілі ўсю эканоміку ў залежнасць ад іншай краіны. Мы і цяпер губляем на экспартна-імпартных аперацыях, паколькі яны адрэгуляваны на карысць Расіі, а не Беларусі. Мы спазніліся з развіццём транспартнай і лагістычнай інфраструктуры, у інвеставанні ў інавацыйныя галіны эканомікі.



Фота «Наша Ніва»

Сацыяльныя, культурныя, гуманітарныя страты наогул нельга падлічыць. Мы не кантралюем інфармацыйную сферу і сферу адукацыі. Паставілі беларускую мову на мяжу выжывання. Амаль забілі кінематограф, кнігавыдавецтва, папулярную музыку. Губляем пазіцыі ў турызме, рэкрэацыйным бізнесе, аддалі расіянам сферу забаў, адкрыўшы для іх мноства казіно. Але я не ведаю, ці разумеюць усё гэта грамадзяне Беларусі і ўрад краіны.

**Я не буду прымаць расійскае або нейкае «саюзнае» грамадзянства ні пры якіх умовах. Нават калі ўсе астатнія людзі прымуць. Я не паеду, не збягу з краіны, што б ні здарылася, які б кульбіт ні выкінула гісторыя**

Я ведаю, што інкарпарацыя Беларусі ў Расію павернецца велізарнымі, незлічонымі стратамі для нашай краіны, для абсалютнай большасці людзей. Шкоду і страты ад гэтага панясе і Расія. Вельмі нямногія ў Расіі гэта разумеюць, а тыя, хто разумее, не можа нічога змяніць. Але я не ведаю, ці шматлікія беларусы гэта разумеюць. Колькі з тых, хто разумее, гатовыя нешта рабіць, каб не дапусціць бяду ў нашу краіну, у кожны дом?

## Што я павінен і што я магу зрабіць

Агульную бяду можна адвесці толькі разам, аб'яднанымі намаганнямі, салідарнымі дзеяннямі. Героі, якія ратуюць свет і чалавецтва, добрыя ў кнігах і кіно. Ні адзін герой, ні група герояў не могуць выратаваць усіх. Асабліва калі людзі не хочуць ратавацца. А тое, што ў краіне ёсць шмат людзей, якія не хочуць ратавацца ад навіслай пагрозы, я ведаю.

Частка насельніцтва схільная да расійскай прапаганды. Гэтыя людзі нават мараць пра інкарпарацыю Расіяй.

Значная частка знаходзіцца пад уплывам беларускай прапаганды аб брацкіх адносінах, аб заходняй пагрозе, аб выгодах савецкага ладу і сацыялізму.

Яшчэ большая частка грамадства заражаная «стакгольмскім сіндромам», комплексам «завучанай бездапаможнасці». Пасіўная частка грамадства перакананая, што ад грамадства — а значыць, і ад іх асабістых дзеянняў — нічога не залежыць, яны ні на што не могуць паўплываць, таму нават не думаюць пра тое, каб уплываць.

Але ёсць грамадзяне, гатовыя да самых радыкальных дзеянняў. Мне пісалі і тэлефанавалі людзі ды паведамлялі, што яны гатовыя нават узяцца за зброю. Што ж! Як дойдзе да такога, я з імі. Вось толькі гэта жэст адчаю. Партызаншчына ў XXI стагоддзі ў Еўропе неэфектыўная.

Плошча ці Майдан, каб кожнаму было зразумела, будзе ў любым выпадку. Але выйсці на Плошчу — яшчэ не значыць вырашыць праблему. Поспех Плошчы–Майдана вызначаецца колькасцю і працягласцю, тым, КОЛЬКІ нас будзе на Плошчы і як ДОЎГА мы гатовыя стаяць. Выйсці і сысці — гэта для ачысткі сумлення. А перамагчы можна толькі ўпартасцю, стойкасцю і мужнасцю, высокай арганізаванасцю і дысцыплінай.

Выйсці — мы выйдзем. Колькі нас будзе? Як доўга мы пратрымаемся? Ці хопіць нам арганізаванасці, дысцыпліны і адказнасці? Я хачу прадухіліць бяду, хачу перамогі. І ведаю, што гэтага ж хочуць многія. Але шмат — гэта колькі? Не ведаю.

А што калі нас будзе мала? І нам не хопіць стойкасці і адказнасці? Часам, так бывае, чалавек павінен здзяйсняць учынкі, нават калі няма надзеі на перамогу. Проста па-чалавечы. Разумеючы, што інакш зрабіць немагчыма.

Я не буду прымаць расійскае або нейкае «саюзнае» грамадзянства ні пры якіх умовах. Нават калі ўсе астатнія людзі прымуць.

Я не паеду, не збягу з краіны, што б ні здарылася, які б кульбіт ні выкінула гісторыя. Нават у выпадку акупацыі мара аб незалежнай Беларусі не павінна памерці. І захавацца мара можа толькі людзьмі, якія жывуць у Беларусі, што б з ёй ні адбывалася. Хтосьці павінен марыць і перадаць мару наступным пакаленням. Мару і мэту. Пакуль ёсць мэта — ёсць і надзея яе дасягнуць.

Я ведаю, што многія думаюць падобным чынам. І дзейнічаць будуць гэтак жа. Не ведаю, колькі нас.

Мне казалі з сумневамі, што можа быць яшчэ не час услых казаць пра ўсё гэта. Бо яшчэ нічога не вядома. Словы і ўчынкі павінны быць своечасовымі. І чым сур'ёзней рызыкі, чым важней мэта, тым больш значныя памылка. «Сёння рана, а заўтра позна». І спяшацца шкодна, і спазняцца небяспечна.

Шкодны фальстарт з Плошчай. Шкодная паніка і алармізм. Але папярэджанне пра пагрозу і небяспекі не бывае заўчасным. Не будзе заўчасным і папярэджанне пра тое, што прэзідэнты не маюць права і не могуць вырашаць за народ, за грамадства, за чалавека і грамадзяніна.

Яны павінны ведаць, што іх рашэнні, якія б варыянты ні распрацавалі іх «працоўныя групы», не будуць канчатковымі. Вырашаць будзе грамадства.

Я ведаю, што я буду рабіць пры любым варыянце разгортвання падзей. Я буду дзейнічаць так, як вырашаю я, і не буду арыентавацца на тое, што вырашаюць іншыя. Але мне важны тыя, хто думае гэтак жа, як я, і будзе дзейнічаць гэтак жа, як я.

Я — грамадзянін незалежнай Рэспублікі Беларусь, і застануся ім назаўжды, што б ні рабілі здраднікі незалежнасці, і колькі б іх ні было. Сваё рашэнне я прыняў даўно, і яно нязменнае. Незалежнасць нашай краіны — наша агульная каштоўнасць, наш здабытак. Калі мільён грамадзян выкажа сваю пазіцыю, з гэтым ніхто не зможа не лічыцца. І тады мы выйдзем на Плошчу святкаваць чарговыя ўгодкі нашай незалежнасці, а не пратэставаць супраць яе продажу.

Я не хачу ў Расію! А вы? Я ніколі не буду рускім, расійскім грамадзянінам! А вы?

**Паводле journalby.com, пераклад НЧ**

# Леанід Лыч: «Нам патрэбна дзяржаўная палітыка беларусізацыі з дэрусіфікацыяй»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«Я так люблю працаваць — у гэтым мая сіла», — прызнаецца прафесар, доктар гістарычных навук Леанід Лыч, і, гледзячы на яго, мы ахвотна ў гэта верым. Напярэдадні 90-гадовага юбілею Леанід Міхайлавіч распавёў «Новаму Часу» пра тое, як адракаўся ад беларускай мовы і вяртаўся да яе, як служыў у Азёрлагу і чаму апошнія 25 гадоў для яго — самыя страшныя ў гісторыі Беларусі.**



***— Спадар Леанід, пэўна, тое, чым становіцца чалавек, закладаецца ў дзяцінстве. Што вызначыла ваш жыццёвы шлях, чаму вы вырашылі прысвяціць жыццё вывучэнню беларускай нацыятворчасці?***

— Мясцовасць, дзе я нарадзіўся — вёска Магільна Уздзенскага раёна, — была мястэчкам. І хоць у савецкі час такой назвы ўжо не было, мы ганарыліся, што мы местачкоўцы. Да вайны наш народ вельмі любіў сваю культуру і звычаі. І хоць царкву ў нас разбурылі ў 1937-м, на святы ўсё роўна людзі апраналіся па-святочнаму. Гэта цяпер кажуць «вышыванка», а тады казалі проста «святочны ўбор». І бабулі, і дзяўчаты былі такія прыгожыя, глянеш — ажно ўся вуліца як вышыванка.

Мы жылі ля самай савецка-польскай мяжы з усходняга боку. І, калі раней выкладанне ў школах было на беларускай мове, то напрыканцы 1930-х ужо не ўсе настаўнікі маглі гаварыць па-беларуску. І тады ад бацькі я пачуў слова «русяць» — не па-нашаму гавораць, бо мы ж беларусы! Унутры ў людзей была такая свядомасць.

Калі пачалася вайна, непераможная Чырвоная Армія адступала ў панічным страху. А з вясковага народу ніхто не ўцёк, усе засталіся, бо былі ўпэўненыя, што іх немец чапаць не будзе. Наступіла акупацыя, і бацька кажа: «Дзеткі, як адкрыюць школу — пойдзеце вучыцца». А я да вайны скончыў пяць класаў. І мы пайшлі ў школу, якая была чыста беларуская. Настаўнікі таксама размаўлялі выключна па-беларуску. А затым нам сталі ўводзіць мову Тарашкевіча, і мой бацька — нягледзячы, што калгаснік, — кажа: «О, да нас нацдэмаўшчына вярнулася».

У школе можна было пачуць тое, пра што нам не казалі за савецкім часам. Напрыклад, пра гісторыю Беларусі. Раней нам настаўнікі адказвалі, што тут была пустэча і не было ніякага жыцця. А пры немцах расказвалі, што тут і пяць, і сем тысяч гадоў таму жылі людзі, толькі ніхто гэта не даследаваў.

***— Калі ўжо вы ўзгадалі нацдэмаўшчыну, мо прыгадаеце, як вашу мясцовасць закранулі рэпрэсіі?***

— Вельмі моцна. Мы жылі на мяжы, а на мяжы трэба, каб былі «артадаксальна чыстыя» савецкія людзі. Там, дзе можна было да нечага прычапіцца, — чапляліся, і людзей высылалі. Але яны настолькі мірна да гэтага ставіліся: наплачуцца на двары, паабдымаюцца з суседзямі, сядуць на воз і разам з міліцыянерам едуць ва Узду, дзе ўжо з імі распраўляліся. Але быў і такі выпадак, калі міліцыянер сказаў: «Скіньце дзяцей з возу». І тыя дзеці, застаўшыся без бацькоў, двое сутак дабіраліся да Магільна. Я думаю, у нас было вывезена 15–20 працэнтаў жыхароў з вёскі. І вывозілі самых прыстойных людзей — заможных, не гультаёў, не п'яніц.

Майго бацьку таксама аднойчы выклікалі ў сельсавет. Ён меў такую-сякую адукацыю, мог крытычна аналізаваць сітуацыю і сказаць пра гэта камусьці на вёсцы. І гэта стала прычынай, каб напісаць на яго ў сельсавет, які ў тыя часы меў паўнамоцтвы спецслужбаў. Аказалася, сусед паскардзіўся. Калі запытаўся, куды бацька ідзе, той адказаў: «На пякарню дровы пілаваць — іду, як на паншчыну». Але тады за яго заступіўся дырэктар школы, і бацьку адпусцілі. Увогуле, бацька крытыкаваў тых, хто ехаў моўчкі, калі іх забіралі. Казаў: «А я б ці каменем стукнуў, ці паленам шпульнуў — я б сябе абараняў!» А маці гаварыў: «Калі па мяне прыйдуць, я ім жывым не здамся, і хоць аднаго гада ды заб'ю». Але, дзякуй Богу, нас гэта абмінула.

***— Але ж неўзабаве прыйшла вайна...***

— Я вам скажу, што гэта людзей мабілізавала. За гады акупацыі ў нашай вёсцы не было ніякага крадзяжу, бойкі паміж сабою, ніводнага разводу. Калі пачалася партызаншчына, вялікі фактар адыграла геаграфічнае становішча: Нёман аддзяліў нас ад раённай управы, дзе панаваў акупацыйны рэжым. Таму наша тэрыторыя забяспечвала партызан, а тая — паліцэйскіх. Але былі выпадкі, калі ў Нёмане маглі адначасова з аднаго боку плёскацца партызаны, а з іншага — паліцаі. Яны бачылі адзін аднаго — і разыходзіліся. Кажуць, што наш народ можна падзяліць на тых, хто прыслугоўваў немцам, і тых, хто быў адданы савецкай уладзе. Але, ведаеце, у нас яшчэ было і этнічнае адзінства людзей.

Увосень 1942-га года мы засталіся без бацькі. У яго была хвароба, якую я паўтарыў у яго ўзросце, але мне зрабілі аперацыю. Тады ніхто гэтага не мог зрабіць, і бацька ў 41 год памёр. І нас пецярых гадавала маці. Я станаўлюся перад ёй на калені, бо ў такім горы яна ніколі перад намі не плакала і не казала, як ёй было цяжка. Гэта была вельмі гераічная жанчына. Праўда, яна супрацьўлялася, калі я пасля заканчэння вайны захацеў вучыцца. Бо я быў старэйшым хлопцам у сям'і.

**Пры немцах Мінск перажыў беларусізацыю, да таго ж быў наплыў вёскі, таму ўсе размаўлялі па-свойму. Стаялі знакі: «Трымайся руху з правага боку». Воінаў сустракалі надпісамі не «Слава красноармейцам!», а «Хвала чырвонаармейцам!»**

***— І ўсё ж лёс склаўся так, што вы паехалі вучыцца?***

— Пасля сямі класаў я з'ехаў у Мінск і паступіў у статыстычны тэхнікум. Паступіў — і не ведаю, на каго я буду вучыцца. А ўсё праз маці. Усе сярэднеспецыяльныя навучальныя ўстановы ўжо скончылі наборы, і адзін толькі статыстычны тэхнікум не мог набраць. Ну я і падумаў, што трэба туды ісці. У каго ні пытаўся, нават з настаўнікаў ніхто не мог адказаць, што гэта за тэхнікум. Казалі: «Ну ідзі, разбярэшся як-небудзь».

Гэта быў верасень 1945 года. Мінск тады быў беларускамоўны: пры немцах горад перажыў беларусізацыю, да таго ж быў наплыў вёскі, таму ўсе размаўлялі па-свойму. Шмат дзе стаялі знакі: «Трымайся руху з правага боку». Дэмабілізаваных воінаў сустракалі надпісамі не «Слава красноармейцам!», а «Хвала чырвонаармейцам!».

У тэхнікуме навучанне было па-руску, але адчувалася, што моладзь адносна мовы выкладання не згодная. Тады да нас прыйшла выкладаць рускую мову выпускніца Маскоўскага ўніверсітэту, вельмі прыгожая дзяўчына. І вырашыла правесці з намі занятак пра вартасць рускай мовы. Мы яе наслухаліся, і асабліва мне запомніліся яе словы, што калі хочаш быць культурным і ва ўсім дасведчаным, дайсці да гэтага можна толькі праз рускую мову. Ну я ж прыехаў сюды не валацугам быць, а каб сапраўды стаць культурным чалавекам! І пачаў пакрысе пераходзіць на рускую мову. Хаця маці, як мяне праводзіла, казала: «Сынок, я цябе прашу: не гавары ты на людзях па-гарадскому».

***— Чытала, што вам давялося служыць у Азёрлагу. Ці гэта праўда?***

— Праўда. Пасля заканчэння тэхнікума я вельмі хацеў стаць афіцэрам. У авіяцыйнае вучылішча паступіць не змог — нешта было са здароўем, — і пайшоў у школу Міністэрства ўнутраных спраў. У тыя часы міліцыя была ў пашане. Пайшоў толькі таму, што яны рыхтавалі афіцэраў для службы ў памежных войсках. Але з часам школа згубіла гэты профіль, і я думаў, як моцна памыліўся.

Азёрлаг — гэта быў лагер палітычных зняволеных, такіх лагераў поўна было ў Сібіры, на Далёкім Усходзе і на крайняй Поўначы. Гэта быў зусім іншы свет, ён стаў для мяне багацейшай школай. Я зразумеў, што ніякага камунізму мы не будуем, што сядзяць тут людзі, нязгодныя з тымі, хто сёння пры ўладзе, якія бясконца любяць свае народы: рускія — рускіх, украінцы — украінцаў, беларусы — беларусаў. І ў мяне адразу ўзнікла жаданне звольніцца, але як ты звольнішся, калі толькі пачаў служыць? І вырашыў набірацца досве-

ду. Я працаваў аператыўным упаўнаважаным, меў права выклікаць вязняў і пытацца пра іх жыццё: чаму яны трапілі ў лагер. Стаў вывучаць іх і савецкую сістэму. І яшчэ больш пераканаўся, што намі кіруе купка злодзеяў-чыноўнікаў, якія любога могуць загнаць сюды, калі ўбачаць у ім ворага. Адзін з вязняў мне сказаў: «Грамадзянін начальнік, вы асабліва не ўнікайце ў сутнасць нашага палітычнага рэжыму, ён вельмі складаны. Сярод нас таксама ўсялякія ёсць. Тое, пра што вы гаворыце, таксама можа быць дакладзена, куды трэба».

Але трымацца адных поглядаў, а выконваць іншае — гэта было не для мяне, і я зламаўся. Настолькі, што задумаліся, ці ў норме ў мяне псіхіка, бо я самавыключыўся з камсамолу. Калі мяне абралі сакратарам камсамольскай арганізацыі, у мяне былі крытычныя думкі наконт яе. Я прасіў, каб мяне пераабралі, на што мне сказалі: «Тады вы не афіцэр». І тут я зрываю з сябе пагоны і кідаю на стол. Многім падалося, што нармальны чалавек так не зробіць, і мне наладжваюць наведванне псіхіятрычнай абласной бальніцы ў Іркуцку. Пасля мяне зрабілі інспектарам па культуры ў калоніі інвалідаў.

Пасля смерці Сталіна сталі разбірацца, хто сядзіць у лагерах, а таксама дэмабілізаваць афіцэраў. Але многія з іх былі ў роспачы, не ведалі, як цяпер жыць і ўтрымліваць сям'ю. Таму з адным з іх я памяняўся: замест яго дэмабілізавалі мяне, за што ён даў мне поўны збор твораў Пушкіна. Я прыехаў ва Уфу, паступіў на гістарычны факультэт Башкірскага педагагічнага інстытута і атрымаў вышэйшую адукацыю.

З 1950 па 1958 гады я жыў па-за межамі Беларусі. І тое, што казала настаўніца рускай мовы, я стрымаў: стаў вельмі добра валодаць літаратурнай рускай мовай. У той жа час я заўсёды лічыў сябе беларусам, і калі маю нацыянальнасць пісалі «рускі», я настойваў, каб перапісвалі.

***— Як вы вярнуліся да беларускай мовы?***

— Калі мы з жонкай у жніўні 1958 года ехалі ў цягніку ў Беларусь, як толькі мы пераехалі Смаленскую вобласць, у цягніку сталі гаварыць па-беларуску. А я восем гадоў не чуў гэтай мовы. У мяне заняло дыханне, і слёзы з вачэй пайшлі.

Прыехаўшы ў Мінск, я наўсцяж чуў рускую мову, таму працягваў размаўляць на ёй, змірыўся. І толькі калі стаў працаваць у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук, да мяне сталі прыглядацца хлопцы з Заходняй Беларусі. Паміж сабою, калі не было нікога з начальства, яны размаўлялі па-беларуску. А я з імі — па-руску. Яны мяне пачалі крытыкаваць за гэта, а потым усё ж уламалі, за што хачу ім сказаць вялікі дзякуй. Я стаў пацішу размаўляць з імі па-беларуску — гэта аказалася не так проста. Таму я вельмі гуманна стаўлюся да тых, хто не адважваецца перайсці на беларускую альбо мала яе ўжывае ў грамадскіх месцах. Але хлопцам я сказаў, што загавару толькі тады, калі адчую, што размаўляю літаратурна правільна. Але загавару ўжо ўсюды — ці гэта будзе пасяджэнне навуковай рады, ці канферэнцыя.



**«Свет вельмі добра ведае, як прыгнятаюцца нацыянальныя правы баскаў, валійцаў, ірландцаў і каталонцаў, але свет нічога не ведае, што робіцца на Беларусі. Мы не можам правесці на Бацькаўшчыне чынную канферэнцыю на працягу двух-трох дзён, каб разгледзець праблему выратавання беларускай нацыі ад этнічнага вымірання»**

У 1960–1970-я гады, калі падыходзіў да касы набыць квіток на канцэрт і чуў ад людзей, што квіткоў ужо няма, казаў касірцы па-беларуску: «Ну пашукайце як-небудзь!» Не паверыце — шукалі!

***— А цяпер? Як вы ўвогуле ацэньваеце змены, якія адбыліся ў беларускай нацыянальнай прасторы за час незалежнасці?***

— Я хачу сказаць: чаму Бог нас так пакрыўдзіў гэтай сімвалічнай незалежнасцю? Вы паглядзіце, колькі іншыя былыя савецкія краіны ўсяго зрабілі для свайго нацыянальна-культурнага адраджэння. Яны сталі зусім іншымі. А мы што? Пагроза татальнай русіфікацыі беларускага народа цяпер больш страшная, чым пры Савецкім Саюзе. Тады казалі, што савецкі народ — гэта розныя этнічныя супольнасці, якіх аб'ядноўвае самая развітая мова — руская. А цяпер многія беларусы ўжо пагадзіліся з тым, што кажа Лукашэнка: руская мова — наша, руская культура — наша. Дзяржаўная суверэннасць нічога нам не дадала ў нашай этнакультурнай самабытнасці. Больш за тое, яна забрала ў нас тое, што захоўвалася пры савецкай уладзе.

Я лічу апошнія 25 гадоў самымі хмарнымі, бо тых этнакультурных стратаў, якія мы панеслі за гэты час, мы не ведалі за ўсю нашу гісторыю. Нават Расійская імперыя пасля далучэння ў 1795 годзе амаль усёй Беларусі не зрабіла за 25 гадоў таго, што зрабілі мы. Мы, па сутнасці, згубілі сваю родную мову. Мова жывая толькі тады, калі яна абслугоўвае афіцыйнае грамадскае і дзяржаўнае жыццё. А народ без культуры і мовы — гэта гной для колькаснага павелічэння іншых народаў. Паглядзіце, як мы істотна павялічылі колькасць «рускіх» ад таго, што згубілі мову і культуру. А колькі беларусаў перайшло ў палякаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў? І цяпер у нашага народа такое ўражанне, што ў нас няма нічога свайго, што беларуская мова і культура — гэта выдумка, што мы — рускія. Не дай Божа, калі сюды прыйдуць рускія войскі. Хоць Лукашэнка і кажа, што кожнаму беларусу дадуць па аўтамату — кожны беларус выкіне яго і скажа: «Дык ідуць да нас нашыя людзі!»

Спадзявацца на тое, што мы гульнямі і днямі беларускай мовы адродзім мову, ніяк не выпадае. Нам патрэбна кардынальная дзяржаўная палітыка беларусізацыі паралельна з дэрусіфікацыяй. Але варта нам толькі займець сапраўдны нацыянальны ўрад, як на працягу трох-пяці гадоў усё можна будзе паставіць з галавы на ногі.

***

Леанід Лыч нарадзіўся 8 лютага 1929 года. З 1962 года працаваў у Інстытуце гісторыі НАН, даследаваў пытанні сацыяльна-класавых адносін у савецкі час, гісторыю беларускай культуры, моўную палітыку ў Беларусі ў XIX–XX стагоддзях, а таксама міжнацыянальныя адносіны на Беларусі ў XX стагоддзі. Адзін з аўтараў «Гісторыі Мінска» (1967), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 5, 1975), «Гісторыі рабочага класа Беларускай ССР» (т. 4, 1987), «Нарысаў гісторыі Беларусі» (ч. 2, 1995). У 1992–1996 гадах узначальваў Тапанімічную камісію пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Вядомы сваёй вострай публіцыстыкай у незалежнай прэсе па пытаннях нацыянальнай культуры і моўнай палітыкі на Беларусі.

Ён з'яўляецца не толькі аўтарам шматлікіх публікацый, але і ініцыятарам грамадскай актыўнасці. На VI з'ездзе беларусаў свету ён адзначыў, што дзякуючы «праклятай афіцыйнай палітыцы дзвюхмоўя» беларусы па сутнасці згубілі сваю мову. «Я лічу, што не першы дзясятак гадоў у нас няма сапраўднага беларускага нацыянальна-культурнага жыцця. Мы жывём чужымі адходамі і нічога вартага не ствараем для сябе. І гэта ўсё з-за таго, што ў нас моцна абмежаваны сацыяльныя функцыі беларускай мовы», — падкрэсліў навукоўца.

На яго меркаванне, каб хоць трохі выправіць становішча, трэба вынесці сваё гора з хаты. «Свет вельмі добра ведае, як прыгнятаюцца нацыянальныя правы баскаў, валійцаў, ірландцаў і каталонцаў, але свет нічога не ведае, што робіцца на Беларусі. Нам трэба праз усе каналы ісці ў цывілізаваны свет і паказваць, што ў нас робіцца ў краіне. Я думаю, свет не будзе абыякавы да лёсу дзесяцімільённага этнасу, які мае такую багатую гісторыю і знікае з твару зямлі. Мы абавязкова знойдзем падтрымку сярод прагрэсіўнай грамадскасці свету», — адзначаў Леанід Лыч.

З'яўляецца яскравым прыхільнікам нацыянальнай адукацыі.

«Нацыянальная адукацыя — гэта эліксір жыцця кожнага народа, — сцвярджае Леанід Лыч у сваіх публікацыях. — Нам яе стагоддзямі не давалі, прычым улады суседніх славянскіх краін. Таму і маем такую бедную гістарычную памяць, цураемся роднай культуры і мовы, абыякавыя да таго, ці захаваемся як самабытны этнас, ці ператворымся ў бесструктурную, безабліччную масу, будзем утрыманцамі духоўных каштоўнасцяў суседніх народаў, не баючыся бясследна растаяць, знікнуць у іх асяроддзі. Калі дзяржава не пойдзе на стварэнне нацыянальнай адукацыі, адпадуць усякія падставы гаварыць пра яе (дзяржавы) намер выратаваць беларускі народ ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі».

**Фота Аляксандра Лібертада**

***

**Рэдакцыя «Новага Часу» шчыра віншуе Леаніда Міхайлавіча з 90-годдзем. Зычым моцнага здароўя, добрага настрою і плённай працы на карысць Бацькаўшчыны!**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Вегетарыянства — нацыянальная ідэя?

Візітнай карткай казахскай кухні з'яўляецца «бешбармак» — страва з адварнога мяса, локшыны і моцнага булёну. Гэтая аксіёма не аспрэчвалася аж да мінулага тыдня, калі ў казахскай прэсе з'явіліся заклікі перагледзець кулінарны догмат. Аўтары публікацый звяртаюць увагу на некалькі цікавых фактаў. Па-першае, у казахаў няма манаполіі на «бешбармак»: страва прысутнічае ў меню башкіраў, кіргізаў і іншых народаў. Па-другое, калі рэгулярна ўжываць даволі тлустую ежу, цяжка падтрымліваць мабільнасць, характэрную для качэўнікаў — продкаў цяперашніх казахаў. Увесь год харчавацца мясам не дазваляла сама суровая логіка перасоўнай жывёлагадоўчай гаспадаркі ва ўмовах даіндустрыяльнай эканомікі. У штодзённасці продкі казахаў значна часцей харчаваліся малочнымі прадуктамі. А з улікам таго, што спажыванне мяса было ўпісана ў рэлігійную норму, атрымліваецца, што вегетарыянства — гэта нацыянальная філасофія казахаў. Зрэшты, аўтары прызнаюць, што адрадзіць традыцыю немагчыма. Яна знікла прыкладна ў 1960-я гады, калі казахі перасталі ўжываць айран, кабылінае малако і іншыя падобныя прадукты, аддаючы прыярытэт чаю і гарэлцы.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРГ. Готы супраць Бундэсвера

Нямецкую армію апошнім часам рэгулярна скалынаюць скандалы. Дастаткова ўзгадаць нядаўнюю гісторыю пра дзейнасць у казармах падпольнай неанацысцкай структуры, якая рыхтавала забойства палітыкаў. Фігурантам новага скандалу стаў ананімны салдат, якому падчас службы чамусьці спадабалася субкультура готаў. Важным элементам стылю гота ў з'яўляецца перавага чорнага колеру ў вопратцы, спецыфічная атрыбутыка, асаблівы макіяж, адмысловая прычоска — доўгія чорныя валасы. Менавіта гэтая прычоска і справакавала канфлікт паміж салдатам-готам і кіраўніцтвам Мінабароны. Вайсковец настойваў на праве насіць на службе доўгія валасы, паколькі гэта, на яго думку, з'яўляецца прыкметай мужнасці. Мінабароны такія фішкі не зразумела. Спрэчка скончылася перамогай ведамства, якому давялося ўнесці папраўкі ў статут войска. Цяпер нямецкім вайскоўцам забаронена насіць доўгія валасы. Жанчын, якія служаць у Бундэсверы, гэта новая норма пакуль не тычыцца.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. Пераабрацца Парашэнку дапаможа канабіс?

Такую версію агучваюць некаторыя эксперты, каментуючы прапанову часовага кіраўніка ўкраінскага Мінздароўя Ульяны Супрун. Супрун (рэпатрыянтка з ЗША) лічыць неабходным дамагчыся ўжывання марыхуаны ў медыцынскіх мэтах. Праект шакаваў не толькі шараговых грамадзян, якім зразумела, што ва ўмовах украінскай карупцыі рэцэпт на «траўку» атрымаць будзе не цяжка. Непакояцца нават мясцовыя аматары легалізацыі лёгкіх наркотыкаў. Таму ў актывізацыі гэтай тэмы спрабуюць знайсці перадвыбарчы кантэкст. Маўляў, гэта адзін з выбарчых інструментаў выбарчага штабу Парашэнкі, накіраваных на мабілізацыю моладзевага электарату. Праўда, гэта версія трохі кульгае, калі ўлічыць экстравагантны стыль самой Супрун. Апошняя амаль штодня дзеліцца карыснымі парадамі аж да таго, што тлумачыць, як трэба апранаць джынсы і дыхаць. Хутчэй за ўсё, прапанова пра легалізацыю марыхуаны — з той жа оперы. Але гэтая прапанова наўрад ці будзе падтрыманая, бо Супрун спрабуюць адхіліць ад выканання абавязкаў міністра аховы здароўя.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЛІТВА. Выратаваць венесуэльскіх літоўцаў!

За крызісам у Венесуэле ўважліва сочаць у Вільнюсе. Мясцовы МЗС распрацаваў план, у межах якога збіраецца дапамагчы тым літоўцам Венесуэлы, якія, з-за абвастрэння сітуацыі ў краіне, хацелі б пераехаць на гістарычную радзіму. «Мы папрасілі старшыню літоўскай абшчыны Венесуэлы паведаміць нам пра асобаў, якія жадаюць быць перамешчанымі ў Літву неадкладна», — кажуць чыноўнікі. На першы погляд, ініцыятыва дзіўная. Той жа літоўскі МЗС сцвярджае, што за ўвесь час працы консульства ў Каракасе былі сабраныя звесткі пра пражыванне ў краіне ўсяго 50 грамадзян Літвы або асоб літоўскага паходжання. Зрэшты, магчыма, што пра суайчыннікаў згадалі, каб праціснуць у Сейме закон, які дае асобам літоўскага паходжання і чальцам іх сямей права пераехаць у Літву, дзе ім будуць створаныя ўмовы для інтэграцыі. У любым выпадку, калектыўная рэпатрыяцыя венесуэльскіх літоўцаў, напэўна, можа выглядаць добрым піярам для ўраду, кіраўнік якога балатуецца ў прэзідэнты. Нагадаем, што Літва — рэкардсмен па тэмпах міграцыі на Захад, і як вынік — адмоўнай дэмаграфіі. Як кажуць песімісты, калі не зламаць трэнд, праз 50 гадоў нацыя будзе пад пагрозай знішчэння.

**Паводле літоўскай прэсы**

# Сцяг вам у рукі!

Алег НОВІКАЎ

**У сярэдзіне студзеня пачаў працу армянскі парламент, дзе дэмакратычная кааліцыя «Твой крок» Ніколы Пашыняна мае абсалютную дэпутацкую большасць. Самай рэзанансной прапановай дэмакратаў стала ідэя рэформы дзяржаўнай сімволікі.**



Фота www.b24.am



Падаецца, ніводная рэвалюцыя на Каўказе не абыходзіцца без рэвізіі афіцыйных знакаў. Дастаткова прыгадаць, як пасля «Рэвалюцыі ружаў» у 2004-м Саакашвілі замяніў бела-чорна-вішнёвы сцяг, прыняты ў часы першай грузінскай рэспублікі. Яму на змену прыйшлі пяць чырвоных крыжоў на белым палотнішчы.

Прыхільнікі Саакашвілі выступалі за новы сцяг, сцвярджаючы, што менавіта ён прыносіў перамогі грузінскаму цару Давіду і царыцы Тамары. Таксама падкрэслівалася, што новая сімволіка азначае і канчатковы сімвалічны разрыў з Грузіяй часоў Шэварнадзэ, што было сінонімам краіны, дзе пануе татальная карупцыя.

Але для значнай часткі грамадскасці, у тым ліку для некаторых міністраў кааліцыйнага ўрада, гэтыя аргументы былі непераканаўчыя. Не падабалася, што новы сцяг Грузіі быў яшчэ ўчора партыйным сцягам структуры Саакашвілі «Нацыянальны рух». Да таго ж Саакашвілі відавочна махляваў: спачатку пяцікрыжовы сцяг з'явіўся над будынкам парламента нібыта для здымак музычнага кліпа. Потым аказалася, што здымаць сцяг не збіраюцца. Гісторыкі, у сваю чаргу, адзначалі, што на новым сцягу намаляваны Іерусалімскі крыж еўрапейскіх крыжакоў, якія фармальна не мелі дачынення да Грузіі. Зрэшты, хуткія паспяховыя рэформы Саакашвілі легітымізавалі новы дызайн.

Тым жа шляхам, падобна, ідуць і армянскія дэмакраты. Новаабраны віцэ-спікер парламента Ален Сіманян літаральна праз тыдзень пасля старту працы парламента заклікаў змяніць дзяржаўны гімн. Прычым самае незвычайнае — тое, што дэмакрат прапанаваў памяняць цяперашні дзяржаўны гімн краіны — «Наша Радзіма», — на гімн «Савецкая Арменія», напісаны славутым кампазітарам Арамам Хачатуранам.

Матывіроўка Сіманяна вельмі незвычайная. Мелодыя цяперашняга гімна, што вядомы з канца XIX стагоддзя, папулярная, аднак яна не можа канкураваць з версіяй гімна вялікага Хачатурана. Твор апошняга ўключае элементы «шараканаў» (агульная назва армянскіх духоўных песень, афіцыйна прынятых і кананізаваных царквой).

Адзначаюць і тое, што ў аснову цяперашняга гімна пакладзены падрэдагаваны верш пра вызваленчую барацьбу ў Італіі часоў Гарыбальдзі. Гэта значыць, гімн першапачаткова меў не армянскі змест. Тэкст цалкам прасякнуты духам італьянскай вызваленчай барацьбы. У адным з радкоў песні, якая з часам стала армянскім гімнам, спачатку нават былі словы: «Няхай жыве Італія, хай загіне Аўстрыя!»

Але гімнам справа не абмежавалася. У новым урадзе згадалі і пра сцяг. Усё той жа Сіманян прапанаваў змясціць на нацыянальны сцяг так званы «армянскі крыж». Палітык абгрунтаваў гэта старажытнымі хрысціянскімі традыцыямі Арменіі — як першай краіны, якая прыняла хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі.



Прапановы спікера выклікала бурлівыя абмеркаванні ў грамадстве. Найбольш рэзка на ініцыятывы, як і варта было чакаць, адгукнуліся дашнакі. Менавіта партыя «Дашнакцютун» была ля вытокаў адраджэння армянскай дзяржаўнасці сто гадоў таму. Адпаведна, дзяржаўная атрыбутыка Першай армянскай рэспублікі, па сутнасці, была вынікам іх дзейнасці. «Мы не дазволім вам скажаць, змяняць кожнаму на свой густ дзяржаўныя сімвалы», — заявіў галоўны дашнак на сабраным мітынгу.

Багата каму не падабаецца тое, што ў якасці дзяржаўных сімвалаў краіне навязваюць рэлікты савецкай Арменіі. «Пытанне пра змену гімна, вядома, можна абмяркоўваць гадамі, але нельга абмяркоўваць пытанне пра вяртанне гімна Савецкай Арменіі», — адзначае адно з мясцовых выданняў.

З'явіліся і крытыкі ідэі сцяга з крыжам. Яны лічаць, што сцяг у цяперашнім выглядзе мае вялікае значэнне ў гісторыі Арменіі. Ён прайшоў гераічны шлях ад бітваў з турэцкімі войскамі ў гады Першай сусветнай вайны да Нагорна-Карабахскай вайны ў пачатку 1990-х. Зрэшты, калі меркаваць па апытаннях у інтэрнэце, такія армяне ў меншасці.

Дэбаты вакол сімволікі, безумоўна, апынуліся сапраўдным падарункам для апазіцыі з Рэспубліканскай партыі, якая перажывае цяжкі этап. Рэйтынгі рэспубліканцаў, якія вясной 2018-га вынеслі з урадавых офісаў Майдан, настолькі нізкія, што яны нават не прайшлі ў новы парламент. Ініцыятывы наконт сцяга і гімна гальванізавалі гэтую супольнасць.

Апазіцыйныя медыя кпяць з Нікола Пашыняна, які напярэдадні апошніх парламенцкіх выбараў абяцаў заняцца вырашэннем самых важных праблем у краіне. «Ну як тут устрымацца ад заўвагі?! Спадары былыя апазіцыянеры, вы казалі, што для вырашэння актуальных пытанняў вам трэба было сфармаваць большасць у парламенце. Цяпер вы ў абсалютнай большасці і ў сталічнай мэрыі, і ў парламенце! Сцяг вам у рукі! Пачніце ж нарэшце працаваць!» — адзначае блізкі да апазіцыі назіральнік. Зрэшты, ёсць меркаванне, што такая крытыка ўлады, таксама пазбаўленая канструктыўнасці, можа яшчэ больш дыскрэдытаваць рэспубліканцаў, якія дагэтуль не могуць прапанаваць уласную палітычную павестку.

Між тым, Ален Сіманян ужо анансаваў намер прэзентаваць свой варыянт вырашэння пытанняў гімна і сцяга. Яго праект надасць апісанай вышэй дыскусіі новы імпульс.

Дарэчы, у Арменіі ёсць яшчэ герб, які таксама заклікаюць падкарэктаваць. У прыватнасці, напісаць на ім дэвіз. У якасці прапаноўных варыянтаў у свой час прапаноўваліся такія дэвізы: «Адзінства, нацыя, краіна», «Адзінства стварае краіну», «Сіла, радзіма, адзінства». Відавочна, спрачацца наконт аптымальнай версіі можна бясконца.



Фота www.natemat.pl

# Вясна пачалася ўзімку

Алег НОВІКАЎ

**Першы публічны гей-бургамістр у гісторыі Польшчы заснаваў партыю, якая збіраецца ўжо ў наступным годзе захапіць уладу. І пэўныя шанцы ў новай структуры ёсць.**

Зараз у Варшаве — прыкладна каля нуля. Воблачна. Часам ідзе снег. З улікам такога не вельмі фантастычнага надвор'я, назва партыі, што паўстала ў першыя дні лютага, гучыць сапраўды прывабна. Партыя называецца «Вясна». У тым жа тоне вытрымана і праграма партыі, якую сфармуляваў яе заснавальнік Роберт Бедрань. «Хопіць зімы ў Польшчы! Прыйшоў час для вясны», — заявіў ён пад апладысменты прысутнай сямітысячнай аўдыторыі.

Увогуле, партыйнае будаўніцтва і, як вынік, устаноўчы сход партый за Бугам — з'ява трывіяльная. Тым больш, што хутка адбудуцца парламенцкія выбары, напярэдадні якіх палітычны пейзаж часам кардынальна абнаўляецца. Аднак у дадзеным выпадку сітуацыя сапраўды пазаштатная. Узначальваць выбарчы спіс «Вясны» будзе адкрыты гей, 42-гадовы Роберт Бедрань.

У палітыцы Бедрань упершыню засвяціўся прыкладна 10 гадоў таму як актывіст LGBT-ініцыятываў і сябра лева-ліберальнага праекту «Рух Палікота». У 2014-м ён нечакана выйграў выбары муніцыпалітэту горада Слупск, што знаходзіцца на Балтыцы. Дзякуючы свайму іміджу Бедрань хутка стаў самым вядомым у Польшчы палітыкам лакальнага маштабу.

Яшчэ праз пару гадоў пачалі хадзіць чуткі пра намер Роберта стварыць агульнанацыянальны праект. Мэра Слупску ўсё часцей пачалі бачыць у розных кутках краіны на рандэву з актывам грамадзянскіх ініцыятываў, левых партый, прадстаўнікамі культуры. Нарэшце, не так даўно палітык зрабіў шмат кім чаканы «камін-аўт» — падчас ток-шоў на тэлебачанні заявіў пра намер узначаліць польскі ўрад. Стварэнне партструктуры сведчыць пра сур'ёзнасць амбіцый Бедраня.

Што будзе, калі ў Бельведэрскі палац па выніках выбараў 2020-га сапраўды прыйдзе гей? Паводле агучанай на сходзе праграмы «Вясны», быццам, нічога жудаснага. Палякаў чакае рост заробкаў і пенсій, лепшая сістэма аховы здароўя, падзел царквы і дзяржавы, дэклерыкалізацыя школаў, забарона вытворчасці футра з жывёл, правы жанчын на аборты... Увогуле, гендарны блок займае вялікую частку праграмы «Вясны». Відавочна, што Бедрань будзе арыентавацца на жаночы сегмент электарату. Полькі часта адчуваюць сябе ахвярамі вайны за мараль і сямейныя каштоўнасці, якую ўжо сёмы год вядзе ўрад кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS).

Праўда, падаецца, значна больш Бедраня павінны баяцца не кансерватары, а прадстаўнікі тытульнай апазіцыі з ліберальнай партыі «Грамадзянская платформа» (PO). «Грамадзянская платформа» так доўга ўтрымлівала манаполію на апазіцыю, што паспела шмат каму надакучыць. Акрамя таго, малады Роберт Бедрань, чый стыль нагадвае Макрона або Блэра, яўна перахоплівае ў яе вобраз галоўнай праеўрапейскай сілы. Нарэшце, у яго сапраўды ёсць харызма. Да «Вясны» таксама могуць далучыцца і прыхільнікі левай утопіі, пад сцягі якой сітуацыйна могуць сабрацца да 20 працэнтаў выбаршчыкаў.

Некаторыя прадстаўнікі «Грамадзянскай платформы» сапраўды абураюцца паводзінамі Бедраня. Кажуць, што ён па-сутнасці аслабіў антыкансерватыўны фронт. Аднак, хутчэй за ўсё, PO будзе намагацца стварыць з Бедранем агульную кааліцыю пад умоўнай назвай «анты-PiS». Хаця пакуль сам Бедрань, хутчэй, хоча выглядаць як новая свежая сіла. У сувязі з гэтым прэса прагназуе пачатак «братазабойчай бойкі» сярод апазіцыянераў.

Што тычыцца кансерватараў, то яны пакуль рэагуюць на «Вясну» спакойна. На думку іх спікераў, польскае грамадства, нягледзячы на ўсе выклікі сучаснасці, дасюль застаецца ў каталіцкай матрыцы. Беручы пад увагу тое, што радыкальны антыклерыкалізм — важны складнік выступаў Бедраня, здабыць шмат прыхільнікаў яму не свецціць. На іх думку, новая партыя можа разлічваць максімум на 8 працэнтаў галасоў.

Так ці інакш, бенефіс у «Вясны» аказаўся сапраўды някепскім. Паводле сацыёлагаў, партыя ўжо зацікавіла ад 6 да 10 працэнтаў палякаў. Праўда, гэта яшчэ без уліку кампраматy на Бедраня, які абавязкова з'явіцца ў хуткім часе. Правыя палітыкі ўжо абвінавацілі «Вясну» ў тым, што яе падтрымлівае нямецкі капітал. Зноў узгадалі пра тое, як муніцыпалітэт Слупску, быццам, дапамагаў педафілам. Напэўна, першым сапраўдным тэстам для Бедраня будуць травеньскія выбары ў Еўрапарламент.

**Што будзе, калі ў Бельведэрскі палац па выніках выбараў 2020-га сапраўды прыйдзе гей? Быццам, нічога жудаснага. Палякаў чакае рост заробкаў і пенсій, лепшая сістэма аховы здароўя, падзел царквы і дзяржавы, дэклерыкалізацыя школаў, правы жанчын на аборты...**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Александрыя Акасіа-Картэс



Дэпутатка Кангрэсу ЗША, лідарка левага крыла Дэмакратычнай партыі літаральна за год зрабіла мегакар'еру. У чэрвені, практычна не маючы рэсурсу і абапіраючыся на падтрымку грамадзянскіх актывістаў, яна выйграла выбары ў парламент.

Пасля абрання дэпутатам, Александрыя Акасіа-Картэс ініцыявала закон пра новы падатак на багатых, чым наклікала на сябе нянавісць рэспубліканцаў. Апошнія пачалі весці супраць яе медыя-кампанію, што толькі ўзмацніла яе папулярнасць (больш за 70 працэнтаў амерыканцаў падтрымліваюць новы падатак) і аўтарытэт сярод дэмакратаў. Прычым настолькі, што днямі пачаліся дэбаты наконт вылучэння яе ў якасці кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2020-га.

Пры гэтым тыя, хто бачыць Акасію-Картэс гаспадыняй Белага дому, нават ігнаруюць, што прэзідэнтам ЗША, паводле закону, можа быць грамадзянін, які дасягнуў 35-гадовага ўзросту. На іх думку, узроставая норма ў Канстытуцыі — перажытак.

Тым не менш, сумнеўна, што адпаведную папраўку ў Канстытуцыю можна паспець унесці, бо прэзідэнцкая кампанія пачынаецца прыкладна праз год. Большасць экспертаў лічаць, што АОС (так Акасію-Картэс называюць па першых літарах яе імя і прозвішча) можа балатавацца на пасаду прэзідэнта ў 2024-м, калі ёй дакладна будзе 35 гадоў.

Некаторыя ўжо зараз раяць ёй стаць сенатарам. Сенатар — больш адказная пасада ў Злучаных Штатах, і лічыцца, што стартаваць на прэзідэнцкіх выбарах лепш з гэтай пляцоўкі.

### Стэфан Сэкэрану



Кандыдат ад малдоўскай Ліберальнай партыі на выбарах у мясцовы парламент, якія адбудуцца 24 лютага, надаў выбарам новую інтрыгу: ён паабяцаў у выпадку перамогі ліквідаваць Гагаузію.

Гагаузія — аўтаномнае тэрытарыяльнае ўтварэнне на поўдні Малдовы, большасць насельніцтва якой складаюць цюркскі этнас — гагаузы. Створаная ў 1995 годзе аўтаномія фактычна курыруецца Крамлём, на што і звяртае ўвагу кандыдат-ліберал. Акрамя таго, паводле яго словаў, Гагаузія, дзе руская мова мае афіцыйны статус, падрывае прарумынскую ідэнтычнасць малдаван.

Вырашыць гагаузскую праблему Сэкэрану мае намер коштам ліквідацыі палітычнай аўтаноміі на карысць нацыянальна-культурнай. Ідэя не выклікала захаплення сярод саміх гагаузаў. Кіраўнік аўтаноміі назваў прапанову Сэкэрану антыканстытуцыйнай і звярнуўся ў ЦВК з просьбай анулюваць рэгістрацыі Сэкэрану кандыдатам у прэзідэнты.

Зрэшты, пра скандал вакол заявы лібералa, думаецца, хутка забудуць на фоне новых скандалаў, якія дакладна будуць узнікаць па меры набліжэння да 24 лютага. Чакаецца, што алігарх Улад Плахатнюк, які кантралюе «вертыкаль» і парламент, можа пайсці на беспрэцэдэнтныя фальсіфікацыі вынікаў выбараў — з усімі наступствамі.

### Дзмітрый Гнап



Украінскі журналіст, вядомы сваімі расследаваннямі, незалежны кандыдат у прэзідэнты Украіны, наўрад ці выйграе выбары, аднак ён заслугоўвае ўвагі.

Будучы простым журналістам, Дзмітрый Гнап здолеў сабраць 2,5 мільёна грыўняў (каля 90 тысяч долараў) — сума, патрэбная для рэгістрацыі кандыдата ў прэзідэнты Украіны. Грошы былі сабраныя праз інтэрнэт выключна за кошт добраахвотных унёскаў.

Такая практыка для Украіны з'яўляецца ўнікальнай, паколькі звычайна за ўсімі кандыдатамі стаяць грошы алігархаў. Не выпадкова многія людзі называлі поспех Гнапа па зборы грошай «маленькім Еўрамайданам». Дарэчы, кандыдат мае намер развіць поспех, робячы і далей стаўку на кампанію ў інтэрнэце. Паводле яго слоў, гэта прыцягне ўвагу выбаршчыкаў, якім надакучылі традыцыйныя кампаніі з білбордамі, бясплатнымі канцэртамі, замоўнымі артыкуламі і гэтак далей.

Што тычыцца лідараў гонкі, то тут фенаменальныя вынікі дэманструе Уладзімір Зяленскі — комік з шоў «95 квартал». З пачатку года ён нарасціў свой рэйтынг з 6 да 23 працэнтаў і выйшаў у адназначныя фаварыты. Шоўмен абышоў нават Юлію Цімашэнка, якая ўзначальвала гонку больш за год. Фурор Зяленскага павысіў цікавасць да старту трэцяга сезона серыяла «Слуга народа», дзе Зяленскі выконвае ролю прэзідэнта. Серыял стартуе ў сакавіку, і, відавочна, будзе галоўнай паліттэхналагічнай зброяй кандыдата ад «95 квартала».

# Як Сталін дапамагаў нацыстам забіваць жыхароў Заходняй Беларусі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Афіцыйная савецкая, а зараз расійская і беларуская гістарыяграфіі не любяць прызнаваць той факт, што фактычна ў Другую сусветную вайну Савецкі Саюз увайшоў 17 верасня 1939 года, калі загадаў падраздзяленням Чырвонай Арміі перайсці савецка-польскую мяжу і далучыць Заходнія Беларусь і Украіну да СССР. Аднак мала хто згадвае, што яшчэ да гэтага бальшавікі, па сутнасці, дапамагалі нацыстам забіваць жыхароў Віленскага, Навагрудскага, Беластоцкага і Палескага ваяводстваў, наводзячы самалёты люфтвафэ на цэлі на польскай тэрыторыі.**



Чырвоная Армія ў Ракаве, 17 верасня 1939 года



Савецкі самалёт у небе Заходняй Беларусі

## Тэлеграма ў Маскву

Адразу пасля заключэння Пакта Рыбентропа—Молатава 23 жніўня 1939 года немцы пачалі актыўна каардынаваць свае дзеянні супраць Другой Рэчы Паспалітай з бальшавікамі. Лепшым сведчаннем гэтага з'яўляецца тэлефанаванне начальніка сувязі германскай вайсковай авіяцыі генерала-лейтынанта Вольфганга Марцініі ў Амбасаду Германіі ў Маскве, якое адбылося а 7-30 1 верасня 1939 года. Афіцэр папрасіў да слухаўкі вайсковага аташэ, генерала Эрнста Кёстрынга, а калі не змог звязацца з апошнім, перадаў германскаму амбасадару Фрыдрыху Вэрнару фон Шуленбургу наступнае паведамленне: «Начальнік генеральнага штаба генерал-маёр Ганс Яшонэк быў бы вельмі ўдзячны народнаму камісару сувязі, калі б атрымалася зрабіць так, каб радыёстанцыя ў Мінску пачала перадаваць паміж праграмамі сігнал, у якім будуць прысутнічаць словы «Richard Wilchelm 1.0», а падчас эфіру просім як мага часцей пускаць у эфір слова «Мінск». Прашу паведаміць, ці будзе гэтая просьба выкананая і калі».

Хутка амбасадар фон Шуленбург перадаў просьбу з Берліна «па інстанцыі». Адказ не прымусіў чакаць на сябе. У бальшавіцкім паведамленні адзначалася: «Савецкі ўрад гатовы выканаць адзначаную просьбу. Аднак радыёстанцыя ў Мінску на працягу трансляцыі сваёй праграмы, якая спецыяльна будзе павялічаная на дзве гадзіны, будзе як мага часцей перадаваць слова «Мінск». Савецкі ўрад запытвае, ці ў гэтым выпадку патрэбны нейкі акрэслены час перадачы сігналу. Аднак адзначанага ў нямецкай тэлеграме крыптоніму савецкі бок, каб пазбегнуць непатрэбных наступстваў, перадаваць не будзе».

Так Крэмль пагадзіўся дапамагчы нацыстам знішчаць не толькі гарнізоны Войска Польскага на тэрыторыі паўночна-ўсходніх польскіх ваяводстваў, але і забіваць мірных жыхароў. Тых, каго праз два тыдні Масква прыйдзе «вызваляць». Варта таксама адзначыць, што ў гэтыя ж дні Масква дамовілася з Берлінам наконт прыезду ў сталіцу рэйха савецкай вайсковай місіі. Для канспірацыі гэты візіт падалі як «прыбыццё новага савецкага вайсковага аташэ».

## Ахвяры савецка-германскага «Freundschaft»

Слова «Мінск» у навушніках чулі пілоты люфтвафэ, якія раніцай 1 верасня 1939 года разбамбілі польскі вайсковы склад у Караліне пад Гродна. Тады акрамя вайсковых, пацярпела і шмат цывільных жыхароў Гродзеншчыны. У той жа дзень нямецкія самалёты бамбілі казармы 35-га палка Войска Польскага ў Брэсцкай крэпасці, а праз дзень нямецкія бомбы пашкодзілі «Белы палац». Наступны налёт нямецкай авіяцыі на горад на Бугу адбыўся 7 верасня 1939 года. Тады нацысты разбамбілі цэнтр горада. Бамбардзіроўка была звязаная з тым, што ў гэты дзень у Брэст разам са штабам прыбыў Галоўнакамандуючы Войскам Польскім маршал Эдвард Рыдз-Сміглы. Зразумела, што палявалі за ім, а таксама чальцамі польскага ўрада, якія эвакуяваліся на Усход.

Адна з бомб трапіла ў гатэль на вуліцы Дамброўскага (зараз Савецкая) і збіла вугал будынка. Другая ўзарвалася ў двары гатэля. Акрамя гэтага немцы адбамбіліся ў раёне будынка ваяводства на вуліцы Люблінскай уніі (зараз гарвыканкам), а таксама ва «ўрадавай калоніі». Там знаходзіліся супрацоўнікі Міністэрства замежных спраў Другой Рэчы Паспалітай. Аднак асабліва цяжкія наступствы былі ў раёне вуліцы 3-га траўня (сёння Пушкінская), дзе было шмат крамаў і ў час авіяналёту было шматлюдна. Паводле ўспамінаў відавочцаў той трагедыі, пасля бамбёжкі кавалкі цел ахвяр віселі на дрэвах, было шмат крыві. На дарогах ляжалі забітыя коні і гарэлі знішчаныя машыны. Тады ж у Брэсце пачалі капаць траншэі для таго, каб хавацца падчас нямецкіх бамбардзіровак.

А вось як бамбардзіроўку нямецкай авіяцыяй чыгуначнай станцыі Баранавічы апісваў жаўнер польскага Корпуса аховы памежжа (далей КАП) Станіслаў Пехаход: «Пасля прарыву фронту на Візне 135-ты пяхотны полк быў зняты з першай лініі і адпраўлены ў тыл, што дазволіла нам пазбегнуць вялікіх стратаў. 10 верасня 1939 года мы дайшлі да мясцовасці Монкі, а далей да Чорнай Всі ля Беластока, дзе нас пагрузілі на вайсковы эшалон і накіравалі ў бок Баранавічаў. 14 верасня 1939 года мы перажылі цяжкую бамбёжку станцыі Баранавічы Цэнтральныя. У нас былі вялікія страты і ў людзях, і ў вайсковым абсталяванні. Я жыў недалёка ад Баранавіч, і мне атрымалася сустрэцца з бацькам і братам падчас гэтага гітлераўскага налёту. Наступствы былі жудасныя. А 17 верасня 1939 года нас бамбіла ўжо савецкая авіяцыя».

Пазыўныя радыёстанцыі ў сталіцы БССР чулі нямецкія пілоты, якія ў верасні 1939 года бамбілі Кобрын. «Памятаю, мы пайшлі з сябрам пасвіць кароў. Бачым, па чыгунцы ідзе цягнік Пінск–Кобрын. Я ведаў, бо мой бацька працаваў на чыгунцы. Чуем гул самалёта, а хутка ў небе з'явілася двухматорная машына і пачала зніжацца. З яе нешта пападала. Мы пабеглі паглядзець, што ж там з самалёта выкінулі. А гэта бомбы. Выбухі пачаліся. Немец разбамбіў цягнік, а потым пайшоў на Кобрын і скінуў некалькі бомб на горад. Адна з іх упала на школу імя Юзафа Пілсудскага — зараз гэта гімназія № 2»,— апісваў тыя жудасныя падзеі жыхар Кобрына Сцяпан Цімашук.

Варта адзначыць, што гэты палескі горад быў другім па значнасці чыгуначным вузлом Палескага ваяводства. Тут праходзіла чыгунка Брэст — Пінск — Лунінец, а таксама важныя аўтамабільныя дарогі на Баранавічы і Ковель. Таму нямецкія самалёты ў гэтым раёне ажыццяўлялі пастаянныя налёты. Акрамя гэтага, камандаванне Войска Польскага перакідвала свае падраздзяленні з тэрыторыі Заходняй Беларусі ў раён Львова, і гэтаму спрабавалі перашкодзіць нацысты. «Нашыя часці перадыслакавалі з Брэста на Поўдзень. Але як толькі наш эшалон адышоў ад станцыі, наляцелі нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Бамбёжка была жудаснай. Шмат маіх таварышаў тады загінула. Нашы кулямётчыкі спрабавалі страляць па немцах, але сілы былі няроўныя. Як зараз памятаю людскія і конскія трупы ўперамешку»,— узгадваў налёты нямецкай авіяцыі ў верасні 1939 года адзін з жаўнераў польскага войска.



Нямецкія бамбардзіроўшчыкі ў небе Польшчы



Брэст. Верасень 1939 года

## Саветы дабіваюць Войска Польскае

А калі 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла даваенную мяжу з Польшчай, «класавых ворагаў» пачалі «знішчаць» ужо самалёты з чырвонымі зоркамі на крылах.

«Тагачасны Давыд-Гарадок быў экзатычным. Тратуары там былі зробленыя з драўляных дошак, а па вуліцы хадзілі габрэі з пэйсамі, у халатах і ярмолках. [...]. Там быў батальён КАП «Давыд-Гарадок» пад камандаваннем маёра Яцка Тамашэўскага, якому падпарадкоўваліся стражніцы, што знаходзіліся на лініі мяжы. Батальён уваходзіў у склад брыгады КАП «Палессе». У батальёне і брыгадзе тады былі ў асноўным жаўнеры-рэзервісты. [...] 17 верасня ў 5-00 камандаванне батальёна КАП у Давыд-Гарадку атрымала са сваіх стражніц паведамленне, што савецкія аддзелы пераходзяць мяжу. Генерал Орлік-Рукеман аддаў загад супрацьстаяць. [...] Пазней камандаванне загадала адыходзіць. [...] Лета было сухім, і багны высахлі, аднак у дзень прыходзілася праходзіць па 40 кіламетраў. Падчас атак савецкай авіяцыі нашае падраздзяленне панесла вялікія страты»,— узгадваў адзін з польскіх памежнікаў.

Такой была адна са старонак той, «неабвешчанай» вайны, якую Савецкі Саюз вёў супраць Польшчы ў верасні 1939 года на тэрыторыі Заходняй Беларусі. І калі згадваецца аб'яднанне беларускіх тэрыторый, трэба заўсёды аналізаваць, якім коштам гэта было зроблена.

**Фота з уласнага архіву аўтара**

# Чаму рускія лаюцца матам?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Рускі мат стаў неад'емнай часткай культуры ўсіх постсавецкіх краінаў. Мат сёння — гэта праблема не толькі Расіі, але і Украіны, Беларусі, Польшчы, Каўказу… Дзе ступала нага рускага салдата, чыноўніка, шабашніка ці злодзея-кантрабандыста — заўжды заставалася і «моцнае слоўца». Але адкуль маты ўзяліся ў саміх рускіх?**

Яшчэ Дастаеўскі пісаў, што з дапамогай аднаго мацернага слова рускі чалавек можа выказаць усю гаму пачуццяў. З таго часу пра рускі мат, здаецца, сказана ўжо ўсё. Адны лічаць яго спадчынай татара-мангольскага нашэсця на Русі. Іншыя — ледзьве не сакральнай мовай продкаў-паганцаў, незаслужана дэманізаванай праваслаўнай царквой.

У сучасных рускіх публіцыстаў можна прачытаць, што мат — гэта «мова-дысідэнт», стыхійны пратэст народа, стагоддзямі пазбаўленага свабоды. У выніку мы дажылі фактычна да легалізацыі мата. Песні Шнурава, збудаваныя на адпаведнай тэрміналогіі, можна пачуць з кожнага праса, а рэдактарка аб'яднанага выдавецтва «Губернские Известия» нават заўважыла: «У рускага чалавека ёсць два спосабы выпусціць пару. Першы — гарэлка. Другі — мат. Хай лепш будзе мат…»

### «Эбле» — значыць «жаніцца»

Як будзе лепш, хай, канешне, разбіраюцца самі рускія, а мы звернемся да вытокаў. Ці мае падставы міф пра тое, што маты былі навязаныя продкам рускіх за часамі татара-манголаў? У якасці аргумента прыхільнікі тэорыі прыводзяць слова «эбле», што па-цюркску значыць «жаніцца». Калі татарын браў падчас нападаў мясцовую дзяўчыну і закідваў сабе на каня, то мог сказаць «эбле» — «бяру ў жонкі». Для яе сваякоў і суседзяў, зразумела, гэта было сімвалам гвалту — адсюль і генезіс аднаго з найбольш папулярных мацюкоў.

Здаецца, усё проста. Але з міфам не пагаджаюцца найперш археолагі. У знойдзеных наўгародскіх берасцяных граматах, пісаных яшчэ да ўсялякіх татараў, таксама сустракаюцца маты ды вялізная колькасць фінскай лексікі. Найхутчэй, граматы былі пісаныя акурат мясцовымі фіна-уграмі на славяна-фінскай трасянцы, а не кампаньёнамі Рурыка, якія займаліся іх каланізацыяй і акультурваннем.

### Фіна-ўгорская спадчына

Яшчэ адзін важны момант. Адзіны еўрапейскі народ, які выкарыстоўвае маты, максімальна падобныя да рускіх, гэта… вугорцы! Зразумела, ніякага татарскага нашэсця ў іх не было, а ў Еўропу яны прыйшлі задоўга да Чынгісхана і Батыя. Такім чынам, навукоўцы схіляюцца да высновы: маты — старадаўні пласт фіна-ўгорскай мовы.

І тут няма нічога дзіўнага. Уся Цэнтральная Расія, Масковія — гэта гістарычныя землі фінскіх народаў, дзе і тапонімы, і гідронімы акурат фінскія: Масква (народ мокша), Разань (народ эрзя), Мурам (народ мурама), Перм (народ перм). Мокша — мардоўскі этнас, які і даў назву рацэ Масква (Moks — мокша, Va — вада), перароблены кіеўскімі каланізатарамі ў больш мілагучнае «Масква». Уся гэтая тэрыторыя і ёсць гістарычным арэалам распаўсюджвання спрадвечнага мата.

І маты, у дадзеным выпадку, — гэта не прывітанне з мінулага сучасным рускім ад этнасу, які сышоў у нябыт. Гэта не толькі моўная, але і генетычная пераемнасць. Расійская Акадэмія Навук яшчэ на пачатку 2000-х гадоў праводзіла грунтоўнае даследаванне генафонду рускай нацыі, якое паказала, што генетычна руская найбольш блізкія мардве, комі, эстонцам, фінам і вугорцам. Тобок славянская каланізацыя часоў нашчадкаў Рурыка была хутчэй палітычнай, вайсковай, культурнай і філалагічнай. Этнічны ж фіна-ўгорскі фундамент нікуды не знікаў, і доўгатрываласць у мове матаў — чарговы гэтаму доказ.

### «Матерны и всякою непотребной лаею не бранилися…»

Зразумела, што лаянка прысутнічае ў кожнай мове, пытанне ў колькасці і дарэчнасці. Цікава, што замежныя госці яшчэ ў XVII стагоддзі адзначалі: у Масковіі лаянкі празмерна шмат. Напрыклад, нямецкі падарожнік Алеарый пісаў у сваіх «Нататках пра Масковію»: «Малыя дзеці, якія не ўмеюць назваць яшчэ ні Бога, ні маці, ні бацьку, ужо маюць на вуснах непатрэбныя словы…»

Што праўда, з матам у Расіі спрадвеку змагаліся на дзяржаўным і царкоўным узроўнях. Князь Васіль III у 1480 годзе патрабаваў ад сваіх падданых спыніць піць ды мацюкацца. У 1648 годзе цар Аляксей Міхайлавіч выдаў цэлы ўказ, каб маскавіты «песней бесовских не пели, матерны и всякою непотребной лаею не бранилися…» Гістарычным анекдотам стала патрабаванне Кацярыны II забараніць слова «б…дзь» — нядобразычліўцы тлумачылі гэта ў кантэксце змагання царыцы з плёткамі наконт яе сексуальнага жыцця.

Паслядоўна з матам змагалася і праваслаўная царква. Паўстаў нават шэраг цікавых сімвалічных метафараў і параўнанняў. Напрыклад, лічылася, што мацюкі — гэта малітва наадварот, заклік да сілаў цемры. «Калі жанчына лаецца матам, у Хрыста адкрываюцца раны», — казалі і так. Пры гэтым, слова «б…дзь» ажно да XVIII стагоддзя часцяком трапляецца і ў ліставаннях саміх царкоўных дзеячаў, асабліва падчас перамывання костачак сваім апанентам. У гэтым кантэксце «бл…дскі» — сінонім «заблукаўшага», таго, хто адышоў ад веры.



### «Сімптом эвалюцыйнай недаразвітасці»

З дакладнасцю можна сцвярджаць, што ўказы зверху так і не перамаглі рускі мат. З матамі рускі чалавек ідзе ў бой («бранные слова» на «поле брани»), б'е жонку, прымае асабісты паразы і перамогі, цешыцца і плача, а часамі наўпрост не зважае на іх, перасыпаючы лаянкай будзённую размову. Але схаваны сэнс словаў — агрэсіўны, абразлівы, жывёльны — працягвае жыць сярод гэтага стракатага моўнага поля.

Напрыклад, праваслаўны публіцыст ігумен Веніямін Новік заўважае: «Мацерная лаянка — гэта найперш сімптом эвалюцыйнай недаразвітасці. Біёлагі ведаюць, што ў жывёльным свеце існуе яскравая сувязь паміж агрэсіяй і сексуальнасцю, а некаторыя асобіны выкарыстоўваюць свае геніталіі для запужвання суперніка. Некаторыя ж прадстаўнікі сямейства гома сапіенс робяць тое самае, але — словамі».

Такім чынам, за мацернай лаянкай не варта шукаць ані старадаўніх паганскіх традыцыяў, ані «сакральнага зместу», ані чарговай таямніцы «загадкавай рускай душы», незразумелай «бездухоўным» замежнікам. Па вялікім рахунку, мат — гэта старажытны моўны рэлікт, замешаны на агрэсіі і сексуальнасці, які хутчэй за ўсё існаваў, але ў працэсе эвалюцыі і развіцця грамадства знік альбо звёўся да мінімуму ў большасці цывілізаваных народаў. Толькі і ўсяго!

### «Ведзьма», «гадаўка», «курва»…

Зразумела, што і ў нашых продкаў была свая лаянка: «халера», «курва», «цудалажніца», «ведзьма», «гадаўка», «ідзі ў балота», «каб цябе кадук забраў», «костка несвянцоная» (апошняе — з купалаўскіх «Тутэйшых»)… Паводле архівісткі Вольгі Бабковай, судовыя справы часоў Рэчы Паспалітай — гэта скарбонка аўтэнтычнай лаянкі, то-бок словаў «непрыстойных, без стыду ўжытых, неўчцівых, каторымі людзі ўчцівыя брыдзіцца звыклі і Пан Бог абражоны бывае».

Зразумела, што гэта зусім не звыклыя нашаму сённяшняму вуху рускія маты, дый продкі нашы падобныя выпадкі асабліва не талеравалі, калі ўжо справа даходзіла да суду. Асобна існавала і сексуальная лексіка, якая (увага!) не пераходзіла радыкальным чынам, не зрасталася з лаянкай — то-бок не ставала праклёнам. І тым больш, праклён гэты ніколі не рабіўся словам-звязкай у сказе.

Непасрэдна ж рускія маты да нас прыйшлі ўжо як каланіяльная з'ява. Яшчэ на пачатку ХХ стагоддзя нашы сяляне лічылі мацюкі «салдацкай мовай» — нейкім прафесійным жаргонам жаўнераў, якія вярталіся з войска ў вёску альбо станавіліся недзе побач на пастой. Хто ж ведаў, што пройдзе менш як 100 гадоў і рускі мат, з характэрным беларускім дзеканнем і цеканнем, запануе ад Маларыты да Оршы, ад Ашмянаў да Хойнікаў…



**Карціны Васіля Шульжэнкі**

# БагатаДАТА

**Ведаеце, калі забаранілі ўніятаў? А хто атрымаў прэмію «за стварэнне новай беларускай міфалогіі»? Прапануем вам цікавыя падзеі і даты наступнага тыдня.**




## 9 лютага

У Поразаве, што на Гродзеншчыне, 60 гадоў таму нарадзіўся бард, акцёр і шоўмен Віктар Шалкевіч. Нагода паслухаць нешта з альбомаў «Правінцыя», «Смутны беларускі блюз», «Добрай раніцы»... З цікавых творча-біяграфічных фактаў: мае Ордэн усмешкі — гэта спачатку польская, а потым міжнародная ўзнагарода для асобаў, якія прыносяць радасць дзецям. Сярод уганараваных такім ордэнам — Астрыд Ліндгрэн, Стывен Спілберг, Джоан Роўлінг. Шалкевіча ўзнагародзілі «За частыя сустрэчы з дзецьмі і папулярызацыю сярод іх ведаў пра тэатр». Бард з’явіўся на свет, калі яго маці везлі ў радзільню. З таго часу, кажа, ён заўжды ў падарожжах.

## 10 лютага

У 1940 годзе адбыўся першы этап дэпартацыі насельніцтва з Заходняй Беларусі, 50 тысяч чалавек адпраўлены ў Сібір і Казахстан. Першая хваля дэпартацыі тычылася ўсіх грамадзян Рэчы Паспалітай незалежна ад нацыянальнасці. Але найперш забіралі службоўцаў дзяржаўнага апарату, вайскоўцаў, паліцыянтаў, якія пераважна былі палякамі. Дэпартацыя тычылася і проста заможных людзей, сярод якіх былі леснікі, а сярод леснікоў было шмат беларусаў. Дэпартавалі шмат заможных сялян, сярод якіх былі беларусы. Нават сярод асаднікаў і паліцыянтаў таксама сустракаліся беларусы. Пасля былі другі і трэці этапы. А ў маі-чэрвені 1941 года адбылася чацвёртая хваля дэпартацыі насельніцтва Заходняй Беларусі ўглыб СССР. Апошнія эшалоны з людзьмі пакідалі Беларусь пад бомбамі самалётаў люфтвафэ. Са справаздачы НКУС ад 5 ліпеня 1941 года дакладна вядома, што спецорганам не ўдалося вывезці ўсіх, хто быў унесены ў спісы на дэпартацыю з Заходняй Беларусі. Нехта загінуў пад нямецкімі бомбамі, другіх расстралялі савецкія карнікі.



## 11 лютага

65 гадоў адзначае Генадзь Нявыглас, былы начальнік службы бяспекі кіраўніка дзяржавы, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (2006–2008 гады), Беларускай федэрацыі футболу, быў намеснікам генсакратара АДКБ. Ён нарадзіўся на станцыі Парахонск Пінскага раёна. Бацька быў чыгуначнікам, маці — настаўніцай беларускай мовы, а потым дырэктарам школы. Служыў як аператыўнік-чэкіст у Афганістане. Захапляецца паляваннем і рыбалкай.

70 гадоў таму ў Мінску на праспекце Незалежнасці адбылося ўрачыстае адкрыццё Дзяржаўнага цырка. Купальны будынак узведзены па праекце архітэктара Уладзіміра Жукава. Месцаў для гледачоў — 1650, дыяметр манежу — 13 метраў. Дакладней, манежаў чатыры, яны размяшчаюцца адзін пад адным і падымаюцца ў залу пры патрэбе: у залежнасці ад відовішча. Маюцца эстрадны, паркетны, гумовы і лядовы манежы. У Беларусі цырк яшчэ ёсць у Гомелі.

## 12 лютага

**1839.** Адбыўся Полацкі царкоўны сабор, які скасаваў Берасцейскую царкоўную унію 1596 года. Гэта была сапраўдная спецаперацыя з мэтай, паводле сакрэтнай інструкцыі расійскага ўрада ад 1834 года, ліквідацыі ўніяцкай (грэка-каталіцкай) царквы ў Беларусі і ва Украіне. Да сабору расійскія ўлады некалькі гадоў рыхтаваліся, разнастайным чынам рэпрэсавалі ўніяцкіх святароў і прымушалі іх пісаць распіскі пра ўваходжанне ў праваслаўе. Полацкі царкоўны сабор пад наглядам прыбылага казацкага палка прыняў акт, якім абвяшчаў адзінства з РПЦ. Увесну імператар Мікалай І зацвердзіў акт і далучыў уніяцкую царкву да Рускай праваслаўнай царквы. Масква па яго выніках выдала спецыяльны медаль «Адабраныя гвалтам у 1596-м, уз’яднаныя любоўю ў 1839-м».

**2009.** У Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры «Кардыялогія» праведзеная першая ў Беларусі перасадка сэрца.

## 13 лютага

**1974.** У Будславе, дзе і нарадзілася, пакінула свет Паўліна Мядзёлка, артыстка і дзяячка культуры. Яна адной з першых выканала ролю Паўлінкі ў аднайменнай п’есе Янкі Купалы. Ёй прыпісвалі раман з класікам. Аднак Купала ў выніку ажаніўся з яе сяброўкай Уладзіславай Станкевіч. Паўліна Мядзёлка арыштоўвалася ДПУ, а пасля вызвалення, з 1932 па 1947 гады, працавала ў Маскве настаўніцай. Хадзілі чуткі, што Мядзёлка нейкім чынам мае дачыненне да гібелі Купалы ў расійскай сталіцы ў 1942 годзе. Шмат цікавага — у яе мемуарах «Сцежкамі жыцця».

**2009.** Памёр Валянцін Тарас, паэт, публіцыст і перакладчык. У прыватнасці, пераклаў на рускую мову «Доўгую дарогу дадому» Васіля Быкава і «Восень патрыярха» Габрыэля Гарсія Маркеса. У 1943 годзе падлеткам пайшоў у партызаны, у СССР таксама быў своеасаблівым партызанам — дысідэнтам пад пільнай увагай КДБ.




## 14 лютага

Дзень святога Валянціна, або Дзень закаханых.

**1949.** У Віцебску нарадзіўся акцёр тэатра і кіно Мікалай Яроменка-малодшы. Па выніках штогадовага апытання гледачоў часопісам «Савецкі экран» быў прызнаны лепшым акцёрам 1980 года — за ролю Сяргея Сяргеевіча ў фільме «Піраты ХХ стагоддзя». Памёр у 2001 годзе ў Маскве праз інсульт, пахаваны ў Мінску побач з бацькам на Усходніх могілках.

## 15 лютага

**1989.** Быў завершаны вывад савецкіх войскаў з Афганістану. 30 тысяч вайскоўцаў з Беларусі ад 1979 года былі прызваныя выконваць «інтэрнацыянальны доўг». 771 чалавек з іх загінуў, 12 зніклі без вестак.

**1904.** У Мінску нарадзілася Ларыса Александроўская, славутая беларуская оперная спявачка. Што праўда, сапраўдная дата яе нараджэння — гэты дзень у 1902 годзе, але ў пашпарце пазначаны 1904 год. Яна пакінула Мінск папросту з бомбасховішча напачатку вайны з сынам, без дакументаў і рэчаў, а ў 1942 годзе ў эвакуацыі ў Алма-Аце атрымала новы пашпарт са ссоўваннем даты нараджэння, каб памаладзець афіцыйна. Імя па бацьку мела Пампееўна. Была настолькі аўтарытэтнай і знакамітай, што асабіста выбірала месца для будаўніцтва Опернага тэатра ў Мінску. Папрацавала і яго галоўным рэжысёрам. Мела шмат прыхільнікаў і творчага таленту, і жаночай прыгажосці. Казалі, што сярод іх былі самыя высокапастаўленыя кіраўнікі БССР.

**1959.** Сваё 60-годдзе адзначыць Пятро Васючэнка, беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, драматург, казачнік і аўтар фэнтэзі. Аўтар літаратуразнаўчых манаграфій «Драматургія і час» (1991), «Драматургічная спадчына Янкі Купалы» (1994), «Пошукі страчанага дзяцінства» (1995), «Сучасная беларуская драматургія» (2000), «Беларуская літаратура ХХ стагоддзя і сімвалізм» (2004), «Беларуская літаратура і свет: ад эпохі рамантызму да нашых дзён» (разам з Лявонам Баршчэўскім і Міхасём Тычынам).

Аўтар кніг прозы «Белы мурашнік» (1993), «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі» (1997), «Прыгоды аднаго губашлёпа» (1999), «Адлюстраванне першатвора» (2004), экалагічнай казкі «Каляровая затока» (2008), зборніка п’ес «Маленькі збраяносец» (1999), кнігі паэзіі «Піраміда Ліннея» (2008). Творы Пятра Васючэнкі перакладаліся на англійскую, балгарскую, нямецкую, польскую, рускую, славацкую і чэшскую мовы.

Пастаноўкі на яго творы рабіліся ў сталічным Тэатры юнага гледача, маладзечанскім Тэатры лялек і іншых тэатрах краіны.

Лаўрэат літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2003) і літаратурнай прэміі «Блакітны свін» (2010) «за стварэнне новай беларускай міфалогіі».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №216

Падпісана да друку 08.02.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб’ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.